

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 2 чэрвеня 1989 г. № 22 (3484) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Ідзе З'езд народных дэпутатаў СССР



Народныя дэпутаты СССР з Беларусі ў перапынку паміж пасяджэннямі.



«Што пра нас пішуць?» (дэпутаты Алесь АДАМОВІЧ і Расул ГАМЗАТАЎ).



Адзначаецца дэпутат Ігар ЛУЧАНОК.
Фота А. ТАЛОЧКІ. (БЕЛТА).

# РАЗВІТАННЕ З МІНУЛЫМ, ПРАРЫЎ У БУДУЧЫНЮ

### АДБЫВАЕЦЦА ЎВАЧАВІДКІ НА З'ЕЗДЗЕ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР

Напярэдадні было шмат прагнозаў. Выказваліся самыя розныя, нават палярныя меркаванні. Чуліся, у прыватнасці, апасенні, што вынікі З'езда перадвызначаны загадзя і што работа яго будзе зведзена галоўным чынам да выбараў Вярхоўнага Савета і яго Старшыні. З другога боку, маючы адбыцца З'езд параўноўвалі... з Генеральнымі штатамі, якія сабраліся 200 гадоў назад, каб засведчыць адданасць каралю Францыі і манархіі, але ўрэшце аб'явілі самі сябе ўладай ад імя народа. З гэтага, як вядома, пачалася Вялікая французская рэвалюцыя.

Параўнанне, зразумела, досыць прасталінейнае, калі ўлічыць розніцу паміж тагачасным саслоўным прадстаўніцтвам і дэпутацкім корпусам СССР. Аднак жа большасць людзей, якія даверылі выбраннікам прадстаўляць свае інтарэсы на форуме ў Маскве, безумоўна чакала, што З'езд народных дэпутатаў стане падзеяй гістарычнай важнасці. Бо сам час, крызісная палітычная і эканамічная сітуацыя ў краіне патрабавалі экстраардынарных і разам з тым адказных і мудрых рашэнняў. З гэтым, думаецца, пагаджаліся абсалютна ўсе.

Ці збываюцца нашы спадзяванні? Ці пераходзіць наша грамадства ў выніку З'езда той рубеж, пасля якога перабудова стане незваротнай, пасля якога не можа быць вяртання да аўтарытарнай, антыдэмакратычнай палітыкі мінулага?

Тут няма сэнсу пераказваць ход падзей на З'ездзе. Сведкамі іх з'яўляюцца мільёны грамадзян Савецкага Саюза і многіх краін свету. Дарэчы, сам беспрэцэдэнтны факт прамой тэле-і радыётрансляцыі з Крамля —падзея прынцыповай важнасці. Усе матэрыялы З'езда, якія публікуюцца і яшчэ будуць апублікаваны ў друку, патрабуюць грунтоўнага і ўдумлівага аналізу. Але давайце зараз успомнім той дзень 25 мая, які стаў прэлюдыяй З'езда.

Ці маглі мы ўявіць сабе, што так званыя «працэдурныя пытанні» выклічуць такую страсную дыскусію сярод дэпутатаў, такое сутыкненне пазіцый і меркаванняў? Тым больш, калі ўлічыць, што гэтыя, на першы погляд, чыста тэхнічныя пытанні абмяркоўваліся папярэдне і на сходзе партыйнай групы і на сходзе прадстаўнікоў дэпутатаў, дзе *былі прыняты адпаведныя* рашэнні. А між тым, у абмеркаванні парадку дня ўдзельнічалі 8, а ў разглядзе часовага рэгламенту — 15 дэпутатаў з розных рэспублік і рэгіёнаў. Многім, у тым ліку і некаторым дэпутатам, яўна падалося, што дэбаты па працэдурных пытаннях толькі адцягваюць увагу З'езда ад надзённых праблем. Аднак размова, як высветлілася ў наступныя дні пасяджэнняў, ішла пра нешта больш важнае — перш за ўсё пра фундаментальныя прынцыпы стварэння прававой дзяржавы, пра статус органаў вярхоўнай улады і статус дэпутатаў і не ў апошнюю чаргу пра дэмакратычнасць самога З'езда, яго палітычную культуру.

На другі дзень работы дэпутат з Латвіі павіншаваў калег з «заканчэннем першага класа школы дэмакратыі». Якой нялёгкай аказалася гэтая школа для многіх і многіх дэпутатаў, мы ўсе маглі пераканацца. Цяжкі экзамен давялося трымаць усім без выключэння дэпутатам — пачынаючы з цяперашняга Старшыні Вярхоўнага Савета СССР і яго першага намесніка, якім давялося пачуць нямала востракрытычных выказванняў у свой адрас.

Пад агонь крытыкі не раз траплялі і члены прэзідыума З'езда і многія дэпутаты. Стварылася ўражанне, што частка з іх не адразу ўсвядоміла важнасці і унікальнасці таго, што адбывалася ў Крамлёўск м Палацы з'ездаў. Некаторыя прамоўцы параўноўвалі З'езд з перадвыбарчымі акруговымі сходамі. І сапраўды, на вачах у мільёнаў рабіліся добра знаёмыя нам па перадвыбарчай кампаніі спробы не даваць слова асобным дэпутатам, заглушаць іх прамовы апладысментамі, наклейваць палітычныя ярлыкі і нават зневажаць дэпутатаў «непарламенцкімі» выразамі.

(Працяг на стар. 2—3).

# ГОЛАС ДА ГОЛАСУ...

**У гарадскім транспарце і ў магазіне, на вуліцах і плошчах, у інстытуцкіх аўдыторыях і рабочых кабінетах людзі абмяркоўваюць галоўную падзею дня — З'езд народных дэпутатаў СССР. Так што «гарачую кропку», дзе можна было б пачуць нязмушаныя, шчырыя, адкрытыя каментарыі людзей у сувязі з форумам, мы доўга не шукалі.**

**Магазін «Гарызонт» у Мінску. Секцыя, дзе гандлююць тэлевізійнай апаратурай. Сотні тэлеэкранаў розных памераў высвечваюць адзін кадр: на трыбуне З'езда народны дэпутат А. І. Казанік. Так, іменна ў гэты момант, калі дыскусія на З'ездзе набыла нечаканы для ўсіх паварот, калі атмасфера ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў дасягнула аднаго са сваіх пікаў, мы і пачалі рэпартаж. Прызнаемся, што адцягваць увагу людзей ад экрана было ніякавата. Ды і нам самім хацелася даведацца, як вырашыцца высакародная прапанова Казаніка ўступіць сваё месца ў Савеце Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР дэпутату Б. М. Ельцыну. Яшчэ некалькі хвілін мы былі сведкамі ажыўленага абмену думкамі народных выбраннікаў і тых, хто так горача рэагаваў на ўсё побач з намі.**

**Дэмакратычны пачатак перамог!**

**Не выбіраючы, мы звярнуліся да чалавека, які быў бліжэй да нас, з просьбай падзяліцца сваімі меркаваннямі аб чатырох з'ездаўскіх днях. Слухаем:**

«Якая мужная, высакародная асоба — Казанік! Калі сярод дэпутатаў будзе хоць палова такіх людзей, дык можна не сумнявацца, што перабудова не забуксуе, пойдзе далей. Хачу задаць пытанне: чаму адразу не прайшоў у Вярхоўны Савет Барыс Ельцын? Зноў спрацавала бюракратычная машына? Так, можна не сумнявацца. Спадзяюся, што надалей народныя дэпутаты будуць думаць больш маштабна, па-дзяржаўнаму». **(В. А. Арэхаў, начальнік бюро тэхнічнага кантролю Мінскага трактарнага завода).**

**Наведвальнікі «Гарызонта» адразу адрэагавалі на з'яўленне журналістаў, па сваёй ініцыятыве падключыліся да гаворкі. Думкі выказваліся самыя розныя. Запісваем:**

«Мне здаецца, што на З'ездзе ідзе своеасаблівая «гульня ў дэмакратыю». Калі не памыляюся, менавіта Ленін папярэджваў пра небяспечнасць такой «гульні», бо тут спрацоўвае прынцып бумеранга: дзеянне выклікае супрацьдзеянне. Цяпер канкрэтна аб нашай дэлегацыі. Хацелася б ведаць — выбіраўся яс кіраўнік ці прызначаўся? Рэальна было ўключыць, як прапаноўвалася, у спісы для галасавання яшчэ чатырох дэпутатаў ад нашай рэспублікі ці не рэальна? Што тычыцца выступлення дэпутата Жураўлёва, на якога выбаршчыкі ўскладалі вялікія спадзяванні, за кандыдатуру якога змагаліся, дык у мяне асабіста яно выклікала не проста расчараванне, а прыкрасць і крыўду... Выйсці на трыбуну, дзе дарагая кожная секунда, каб... нічога не сказаць. Я вырашыў пайсці на фотатэлетайп, каб паслаць тэлеграму дэпутату Шушкевічу: з просьбай, каб ён, як спецыяліст па ядзернай фізіцы, абавязкова выступіў па праблемах экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы ў сувязі з Чарнобыльскай аварыяй. **(Л. М. Стальмакоў, інжынер трэста «Белпрамналадка»).**

**А вось крыху іншая думка:**

«Я асабіста многага ад гэтага З'езда не чакаю. Гэта пакуль толькі практычная вучоба для дэпутатаў, у час якой яны набываюць вопыт парламенцкай дзейнасці. Таму лічу: не трэба засмучацца, калі З'езд не прыме якіх-небудзь кардынальных рашэнняў. Што канкрэтна па выступленнях беларускіх дэлегатаў, дык згодзен з народным дэпутатам Жураўлёвым, які прапануе не займаць час другаснымі пытаннямі. Я таксама рашуча супраць уздзеяння на выбаршчыкаў мітынговым шляхам, да чаго заклікаюць некаторыя. Перакананы, што законы павінны прымацца не на вуліцах і плошчах, а ў парламенце. Менавіта тут знаходзяць аптымальны варыянт». **(А. Ф. Рашчупкін, старшы выкладчык кафедры марксізму-ленінізму Белдзяржкансерваторыі імя А. В. Луначарскага).**

**Наступнае меркаванне:**

«Шкадую, што не магу глядзець усе выступленні. Я, як і многія, сачу за З'ездам толькі ўрыўкамі. Лічу, што сённяшні форум — беспрэцэдэнтны пасля І з'езда Саветаў. Пытанні ставяцца вельмі востра і ў складанай атмасферы. Часта даводзіцца чуць, што залішне многа часу аддаецца працэдурным пытанням, аднак, думаю, гэта нармальны дэмакратычны працэс. Нам усім трэба радавацца, што дэпутаты не падымаюць ва ўяўнай згодзе рукі па раней падрыхтаваных спісах, як гэта было зусім нядаўна. Аднак тыя недахопы, якія былі закладзены ў перадвыбарчай кампаніі, на акруговых сходах, дазволілі значнай частцы бюракратаў прабіцца на З'езд і сваім апаратна-бюракратычным націскам забалаціраваць многіх сапраўдных падзвіжнікаў перабудовы. Ды ўсё ж ёсць падставы верыць, што ў нас сфарміруецца жывы і працаздольны Вярхоўны Савет». **(С. Я. Коўган, старшыня кааператыву «Адпачынак»).**

**Яшчэ адзін субяседнік:**

«Бескампраміснасць, галоснасць, плюралізм думак —усё гэта нязвычна, усё гэта радуе і абнадзейвае. Аднак адчуваецца, што дэпутаты не заўсёды гатовы самастойна прымаць рашэнні. Многія галасавалі толькі пасля таго, як падняў свой мандат М. С. Гарбачоў. Аўтарытэт яго сярод народа, безумоўна, высокі, аднак у спрэчках, як вядома, нараджаецца ісціна, і таму, на маю думку, трэба даваць магчымасць выказацца ўсім, хто пажадае... Чакаю, калі будзе прыняты закон аб моладзі. Лічу, што поспех З'езда будзе залежыць і ад таго, як ён зможа выпрацаваць праграмы па нацыянальных, прававых, экалагічных пытаннях. А то нашы беларускія дэпутаты ў сваіх перадвыбарчых праграмах ставілі праблему Чарнобыля, а тут, на З'ездзе, яна на поўны голас яшчэ не прагучала». **(Я. І. Замара, механік складанай бытавой тэхнікі завода «Рамбыттэхніка»).**

**Рэпліка суседа, які не захацеў назвацца: «Крытыкаваць у магазіне лёгка: а вось паспрабавалі б вы ў з'ездаўскай зале што-небудзь падобнае сказаць. Круціліся б, як вужакі на патэльні...»**

**Гэтая рэпліка адразу выклікала абурэнне:**

«Дык што, зноў пець дыфірамбы? Не! Памятаеце, як дэпутат з Малдавіі рэзка асудзіў сваю зямлячку, таксама дэпутата, якая выступала ў духу застойных часоў, непамерна ўслаўляючы прэтэндэнта на пасаду першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета СССР?.. А выступленне сакратара Жлобінскага райкома партыі? Якая, замест таго, каб выказаць свае прапановы, вынесла на трыбуну З'езда крыўду на дэпутата Афанасьева: маўляў, ён зноў выбраных членаў Вярхоўнага Савета назваў «сталінска-брэжнеўскім» апаратам. У адным я з ёй згодны: трэба гаварыць пра самае балючае, гаварыць канкрэтна, падзелавому. І гэтага мы чакаем ад беларускай дэлегацыі. У нас многа такіх надзённых праблем, якія замоўчваць проста нельга». **(М. С. Пупко, мастак-канструктар ВА «Мінскпраектмэбля»).**

**Спыняем чарговага «балельшчыка».**

«Безумоўна, З'езд народных дэпутатаў — несумненны крок наперад у дэмакратызацыі нашага жыцця. І ўсё ж кансерватызм на з'ездаўскіх дыскусіях адчуваецца і віна тут кладзецца на недасканаласць нашага выбарчага заканадаўства, якое дазволіла мясцовым апаратчыкам штучна карэкціраваць дэпутацкі корпус, падбіраць яго пад свой густ. Праўда, як выяўляецца, наша дэлегацыя не зусім маналітная... Што мяне яшчэ не задавальняе на З'ездзе? Гэта архаічная працэдура галасавання, неарганізаванасць і непадрыхтаванасць тэхнічнага аснашчэння парламента. Несалідна такой магутнай дзяржаве, як наша, з яе касмічнымі дасягненнямі, не абсталяваць пасучаснаму залу пасяджэнняў. І яшчэ. Чакаю, што з'езд народных дэпутатаў адменіць тыя Указы, якія выклікалі справядлівую незадаволенасць народа. Спадзяюся, што рашэнні З'езда, якія ён яшчэ прыме, будуць скіраваны на чалавека, на абарону яго правоў і максімальнае задавальненне яго матэрыяльных і духоўных патрэб». **(А. В. Балаш, старшы выкладчык факультэта журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна).**

**Цяпер слова гаспадыні магазіна «Гарызонт». Яна — пра сваё:**

«Нам часта прыходзіцца адмаўляць людзям у такой рэчы, без якой сёння немагчыма жыць. Многія прыйшлі сёння да нас таму, што не маюць дома тэлевізара. Дэфіцыт, на жаль, — механізм магутны. Трэба, на маю думку, каб і такія праблемы на З'ездзе знайшлі сваё адлюстраванне». **(І. М. Малыш, прадавец магазіна «Гарызонт»).**

Вось такія думкі і меркаванні выказвалі людзі ў салонемагазіне «Гарызонт». З'езд працягваецца, працягваюцца імправізаваныя дыскусіі...

**Галасы выбаршчыкаў запісалі**
**Марыя ГІЛЕВІЧ,**
**Людміла КРУШЫНСКАЯ,**
**карэспандэнты «ЛіМа».**



На ўсіх экранах — З'езд...

## *З пошты тыдня*

●

Як вядома, выбарчая кампанія ішла ў двух рэчышчах. З аднаго боку — выбары па ранейшаму стандарту, калі галасаванне праходзіла без альтэрнатыўных кандыдатаў, як бы мовіць, у стылі рэтра. З другога боку — ішла сапраўдная барацьба. Мне, у прыватнасці, было вельмі важна, каб дэпутатамі сталі людзі, якія адстойвалі б ідэі перабудовы ў іх канкрэтным напаўненні.

Вядома, з якімі цяжкасцямі выйшаў у дэпутаты А. Р. Жураўлёў. І калі аб'явілі, што ён будзе выступаць, мы ўсе застылі ў чаканні. Вось ён, нарэшце, прадстаўнік Беларусі, які скажа нешта істотнае і важнае, і гэтым самым на вачах мільёнаў выбаршчыкаў апраўдае спадзяванні на беларускую дэлегацыю, бо, дасюль, апрача С. С. Шушкевіча, усе выступалі ў духу ранейшага часу. Пачаў наш дэпутат эфектна, з экрана глядзеўся выдатна, але чым далей гаварыў, тым больш падаў мой дух, а на месца спадзяванняў прыйшлі роспач і расчараванне.

Я разумею: з'езд патрабуе ад кожнага дэлегата высокай палітычнай кваліфікацыі. Можна ў

# ВЫБАРШЧЫКІ ПРЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ...

**У мінулы панядзелак, 29 мая, на плошчы імя Леніна адбыўся шматтысячны мітынг, прысвечаны З'езду народных дэпутатаў СССР. Сігналам да мітынгу паслужыла галадоўка, якую абвясціў за тры дні да гэтага і праводзіў на плошчы слесар М. Собаль. Сваё рашэнне рабочы аднаго з прадпрыемстваў Мінска прыняў у знак падтрымкі прапановы народнага дэпутата Алеся Адамовіча прыпыніць на час работы З'езда дзеянне Указа аб дэманстрацыях і мітынгах. Удзельнікі мітынгу знаёміліся з вывешанымі на плошчы тэлеграмай Міхаіла Собаля ў адрас прэзідыума З'езда народных дэпутатаў і тэлеграмай у адказ ад А. Адамовіча. «Дарагі Міхаіл, — гаварылася ў тэлеграме з Масквы, з Крамлёўскага Палаца з'ездаў.— На З'ездзе не так усё ўжо дрэнна, і тыя Указы, супраць якіх Вы пратэстуеце, намі будуць апратэставаны. А што большасць такая, а не іншая, тут нічога не папішаш. Ды прыйдзецца мяняцца ўсім і ім таксама, раз ёсць такія рабочыя, як Міхаіл Собаль. А я думаю, што большасць такіх. Вельмі прашу галадоўку спыніць. Алесь Адамовіч».**

**Забягаючы наперад, заўважым, што з просьбай спыніць галадоўку звярнуліся да М. Собаля і ўдзельнікі мітынгу і ён гэту просьбу прыняў...**

# РАЗВІТАННЕ З МІНУЛЫМ, ПРАРЫЎ У БУДУЧЫНЮ

(Пачатак на стар. 1).

Варта задумацца — а ці магло быць інакш? Так, першыя ў нашай гісторыі дэмакратычныя выбары несумненна нанеслі адчувальны ўдар па «апаратчыках» і кансерватарах. Але ж яны яшчэ не страцілі сваіх камандных пазіцый. Ды і кансалідацыя ўсіх прагрэсіўных сіл праходзіць вельмі няпроста.

Так што нейкіх «цудаў», на якія, можа, хтосьці спадзяваўся, не адбылося і не магло адбыцца. Як сказаў дэпутат А. Адамовіч, «мы прынеслі ў гэтую залу ўсе хваробы нашага грамадства». Сапраўды, З'езд стаў на нейкі час нібы мадэллю нашага грамадства з усімі яго супярэчнасцямі, канфліктамі і праблемамі.

За кожным з дэпутатаў стаяць інтарэсы тысяч, мільёнаў людзей, інтарэсы рэспублік, аўтаномій, нацый і народнасцяў, сацыяльных слаёў, прафесійных і ўзроставых груп.

З асаблівым хваляваннем і зацікаўленасцю мы, натуральна, чакалі выступленняў дэпутатаў з нашай рэспублікі. Чакалі ад іх адпаведнай актыўнасці і ініцыятывы, свежых ідэй і канструктыўных прапаноў. Зразумела, што такія прапановы часцей за ўсё нараджаюцца ў выніку сумеснай работы калег-дэпутатаў, як плён калектыўнай думкі і разумных кампрамісаў. Але ж спроба навязаць усім, хто мае свой уласны, адметны пункт гледжання, агульнае рашэнне пад выглядам маналітнага адзінства дэлегацыі, прывяла да канфліктнай сітуацыі пры вылучэнні кандыдатаў у Вярхоўны Савет СССР ад Беларусі. (Дзеля справядлівасці, адзначым, што падобныя канфлікты мелі месца і сярод прадстаўнікоў іншых рэспублік. Успомнім хоць бы «расійскі крызіс» і давыбары ў Савет нацыянальнасцей Б. Ельцына).

Так, для многіх З'езд стаў сур'ёзным выпрабаваннем чалавечых, маральных і прафесійных якасцей. У сітуацыі ідэйнамаральнага выбару ўсё знешняе знікала, а праяўлялася глыбіннае, існае. Бясстрасная тэлекамера фіксавала на экранах нашых тэлевізараў малейшыя праявы няшчырасці, ліслівасці, нерашучасці, ці наадварот — амбіцыёзнасці, напышлівасці, душэўнай чэрствасці. (Уразіў такі факт. Дэпутат І. Заслаўскі, які меўся адстойваць інтарэсы найбольш абяздоленай часткі насельніцтва — інвалідаў — а сам ён, таксама інвалід, быў забалаціраваны на выбарах у Вярхоўны Савет).

Але запамінаюцца і высокія праявы чалавечага духу.

Уразіла смеласць і пачуццё ўласнай годнасці дэпутата А. Абаленскага, які «пасмеў» сам вылучыць сваю кандыдатуру як альтэрнатыўную на пост прэзідэнта краіны. Запомнілася рашучасць і ўпэўненасць дэпутата В. Таўпежнікава, які ў першыя мінуты З'езда патрабаваў назваць імёны віноўных у гвалтоўнай расправе з мірнай дэманстрацыяй у Тбілісі 9 красавіка. Запомнілася настойлівасць і нежаночая цвёрдасць, з якой адстойвае інтарэсы сваіх выбаршчыкаў дэпутат ад Арменіі Г. Старавойтава. Выбар імёнаў тут, вядома, крыху суб'ектыўны. Кожны сам можа назваць імёны дэпутатаў — ад рабочага да акадэміка — выступленні якіх былі не проста словамі, але ўчынкам, актам грамадзянскай мужнасці.

Мы бачым: такія выступленні рэдка знаходзілі падтрымку большасці З'езда. Паводле вызначэння дэпутата Ю. Афанасьева — «агрэсіўнай большасці». Магчыма, некаторым з гэтых выступленняў бракавала ўзважанасці, аргументаванасці, канструктыўнасці. Ясна, што дакладны разлік, уменне знаходзіць кампрамісы ў складаных сітуацыях — неабходная якасць палітыка. Але як не ўспомніць

# ВОСЬ ДЫК «КАМЕРТОН»!

## ПРА АДНЫ НАТАТКІ, НАПІСАНЫЯ... НА ПАЛЯХ НАШАЙ ГАЗЕТЫ

14 КРАСАВІКА на старонках штотыднёвіка быў надрукаваны мой матэрыял «Што ж здарылася ў Баранавічах?» На публікацыю адгукнуліся многія чытачы. Хацелася паразважаць над лістамі пасля таго, як кампетэнтныя праваахоўчыя органы скажуць сваё слова над фактам «афіцыйнай гутаркі» супрацоўнікаў міліцыі з членам Саюза мастакоў СССР С. Свістуновічам. Але жыццё, як гэта здараецца часта, уносіць свае карэктывы.

Пра падзеі, упершыню расказаныя ў «ЛіМе», з'явіліся і іншыя меркаванні. У тым ліку і на старонках баранавіцкай аб'яднанай газеты «Знамя коммунизма». Там 5 мая пад рубрыкай «Требует уточнения» з'явіўся кідка афармлены артыкул «Кривое эхо» з развязным падзагалоўкам — «Заметки на полях газеты «Літаратура і мастацтва» по поводу одной из ее публикаций» (?!) Аўтарам «заметок на полях», якія па аб'ёме шмат большыя за сам лімаўскі матэрыял, з'яўляецца рэдактар газеты А. Валынец.

Скажу адразу: спачатку мяне здзівіла назва публікацыі «Кривое эхо». Што азначае гэтае нязвыклае словазлучэнне? Які сэнс уклаў у яго мой баранавіцкі апанент? Пагартаў фразеалагічныя слоўнікі, папытаўся ў мовазнаўцаў — адны здагадкі. І спрэчкі: ці бывае крывое рэха? Хтосьці згадаў прымаўку: як гукнецца — так і адклікнецца... Але дам слова А. Валынцу, каб вам стала зразумела, *што яго прымусіла* ўзяцца за пяро:

**«В публикации «ЛіМа» наша газета упоминается семь раз. Не для защиты чести мундира, а справедливости ради, оберегая уши и души читателей от искаженного «Эха...», пишется эта статья...».**

Чуеце знаёмую інтанацыю? Галоўны клопат — пра чытача, пра ягоныя далікатныя вушы... Сапраўды, навошта тузаць іх напамінам пра ўсялякія спецлагі, суды-тройкі, Курапаты? На календары — 1989-ы, у Баранавічах, як і па ўсёй краіне, адвіравала дэмакратычная перадвыбарчая барацьба. Заўважце — слова б а р а ц ь б а я напісаў без двукоссяў. А ў першай публікацыі, прызнаюся грэшны, «закавычыў» яго. І адразу паплаціўся за гэта, хоць мой баранавіцкі калега, па ўсім відаць, чалавек і не суровы. Самі можаце ўпэўніцца:

**«Не станем упрекать автора в такой недвусмысленной «мелочи», как взятие в кавычки слова «барацьба». (Хотя, позвольте, кто дал право Яговдику голословно иронизировать по поводу выборов в городе?)».**

І тут — знаёмая начальніцкая інтанацыя. З зусім нядаўняга перыяду. Як прынята цяпер называць яго — сумна вядомага. Але пытанне, як кажуць, пастаўлена рубам: хто мне даў права «иронизировать по поводу выборов»? Што мне застаецца рабіць? Хіба шчыра пакаяцца як на споведзі і прызнацца: сапраўды памыляўся. Таму перапрашаю ва ўсіх баранавіцкіх выбаршчыкаў і прылюдна далучаюся да высновы тав. Валынца: барацьба была. Без усялякіх «двукоссяў» і «кавычек». А каго і з кім — пытанне. Давайце разам паспрабуем разабрацца.

Па Баранавіцкай нацыянальна - тэрытарыяльнай акрузе № 75 у бюлетэнь для галасавання 26 сакавіка было ўнесена адно толькі прозвішча — Хусаінаў Юрый Мініваліч.

Так, супернікаў у Юрыя Мініваліча не было. Але газета, якую рэдагуе А. І. Валынец, актыўна вяла барацьбу за выбранне старшыні аграпрома рэспублікі народным дэпутатам СССР. Многія вядомыя ў раёне людзі выступілі ў яго падтрымку. І тым не менш 28 сакавіка «Знамя коммунизма» надрукавала на першай старонцы наступнае паведамленне акружной выбарчай камісіі Баранавіцкай нацыянальна - тэрытарыяльнай акругі № 75:

«За кандидата в народные депутаты СССР Хусаинова Юрия Минивалича, подано 78197 голосов, против — 108053.

56 бюлетеней *признаны недействительными.*

Таким образом, баллотировавшийся по округу кандидат не набрал необходимого количества голосов и не избран народным депутатом СССР».

Прычыну гэтага паражэння Юрый Мініваліч, напэўна, даўно ўжо прааналізаваў. І не толькі ён адзін. Дастаткова пачытаць за апошнія два месяцы ўсесаюзную прэсу, каб у тым упэўніцца. Тым не менш, дазволю сабе выказаць некалькі ўласных назіранняў і высноў з нагоды выбарчай барацьбы ў Баранавіцкай нацыянальна - тэрытарыяльнай акрузе № 75, якія я зрабіў, чытаючы «Знамя коммунизма» і нашу рэдакцыйную пошту. Магчыма, каму-небудзь яны пададуцца спрэчнымі. Што ж, у спрэчцы, як вядома, нараджаецца ісціна. Як ні дзіўна гучыць, але, на маю думку, паражэнню Ю. М. Хусаінава найперш паспрыяла... мясцовая газета! Замест таго, каб даць людзям выказацца пра набалелае, задаць шматлікія пытанні кандыдату і яго давераным асобам, на яе старонках у артыкуле «Голосую за...», аўтарам якога, дарэчы, з'яўляецца той самы А. Валынец, была распачата зняважлівая па тону ідэалагічная кампанія. І супраць каго, вы думаеце? Ды супраць выбаршчыкаў, што адважыліся на самастойную думку. А іх, як засведчыла паведамленне выбарчай камісіі, аказалася не так ужо і мала... Між тым ніводзін з лістоў гэтых неслухаў не быў надрукаваны на старонках аб'яднанай газеты. Прычына? Мяркуйце самі. «В них — явная предвзятость и передергивание ряда фактов... — тлумачыць тав. Валынец. — При этом том писем — не для массового тиражирования...»

Як бачыце, клопат пра вушы чытачоў, што называецца, у крыві рэдактара «Знамени коммунизма». Гэта яго амаль ужо «прафесійная» пазіцыя.

І яшчэ некалькі цытат з баранавіцкай аб'яднанай газеты, што перадаюць хроніку і сутнасць перадвыбарчай барацьбы.

**«Коллективы, назвавшие своих кандидатов в народные депутаты СССР, вместе с доверенными лицами ведут в эти дни активную пропагандистскую работу за их избрание. В минувшие выходные представители автоагрегатного завода, мясоконсервного комбината, а также избиратели производственного хлопчатобумажного объединения использовали несколько необычную форму предвыборной агитации, выйдя в сквер у фонтана по улице Ленина с плакатами и лозунгами, призывающими поддержать выдвинутых кандидатов...» — (№ 46 за 21 сакавіка 1989 г.).**

А ўжо на наступны дзень, 22 сакавіка, у № 47 «Знамя коммунизма» паведамляла:

**«Вчера наша газета сообщала о новых формах предвыборной агитации, которые были использованы представителями трудовых коллективов, назвавших своих кандидатов в народные депутаты СССР. Вечером накануне в центре у фонтана снова собрались отдельные участники предвыборной кампании. На этот раз лозунги были разные — и «за», и «против». Что ж, таковы реалии предвыборной борьбы. В принципе каждый может высказать свое мнение — и не только тайно, в закрытой кабине голосования. Тревожит другое — содержание плакатов и лозунгов, отдельных реплик и высказываний. А содержание их, мягко говоря, было не только не корректным, но и демагогическим, а то и просто по-человечески непонятным...»**

Вы што-небудзь зразумелі з апошняга, сапраўды «человечески непонятного» сказа? Я асабіста — нічога. Бо не пераказана **ніводная** рэпліка, не перададзены тэкст **ніводнага** плаката. Газета адхрышчваецца — і толькі. І наогул, хто такія *яны, што* адважыліся *пайсці* «супраць»? Поўную і разгорнутую характарыстыку А. Валынец гэтым грамадзянам даў у артыкуле «Кривое эхо».

**«Ба! Знакомые все лица. Все из того же несостоявшегося политклуба «Сутнасць», который за четыре месяца организационного периода так и не смог из-за собственных аморфности и амбиций определиться в общественно полезном деле, зато членов которого умело использовал его неформальный лидер — упомянутый Свистунович, так пекущийся о поддержке идей оргкомитета по созданию Белорусского народного фронта...»**

Што і казаць — порсткія грамадзяне, але зусім, як вынікае з Валынцовай характарыстыкі, палітычна непадкаваныя. Дазволілі сабе затлуміць галаву. Відаць, газет не чытаюць, з адукацыяй — тугавата. Няйнакш за плячыма ў кожнага не больш славутай вячэрняй школы! Аж не! Сярод тых, каго «умело использовал упомянутый Свистунович», і выкладчык дзіцячай музычнай школы № 1 Я. Чарнамашанцаў, і інжынер заходняй пошукава-здымачнай партыі В. Скок, і яго калега А. Бліноўскі, і супрацоўнік краязнаўчага музея М. Бернат, і выкладчык тэхналагічнага тэхнікума С. Слабчанка. Вядома, лепш з такімі ўпартымі праўдалюбцамі гаварыць у форме указаў і загадаў. Як-ніяк, звыклы, адпрацаваны метад. Але нельга грэбаваць і паслухмяным журналісцкім або нават мастацкім словам. Пакуль што... А там відаць будзе. І вось ужо праз нумар, 25 сакавіка, на старонках «Знамени коммунизма» тэрмінова друкуецца верш інжынера-тэхнолага вопытна-эксперыментальнай абутковай фабрыкі М. Гершыка «Про споры у фонтана». Дальбог, тварэнне гэтае варта таго, каб хоць некалькі «перлаў» з яго працытаваць:

**Чего, ребята, добиваетесь,**
**аль бузить вдруг стало модно?**
**Догодить кому стараетесь,**
**смуту сея принародно?**

**Иль словами-перекатами**
**Мяса можете прибавить?**
**А бумажными плакатами**
**переделать всё, исправить?**

Шкада толькі — ні М. Гершык, ні рэдактар газеты не здагадаліся паведаміць у зносцы пад вершыкам, што не па сваёй ахвоце «ребята» стоўпіліся каля фантана ў цэнтры горада. Яны толькі падтрымалі ўхваленую газетай «несколько необычную форму предвыборной агитации». А напачатку хацелі сабрацца на мясцовым стадыёне «Лакаматыў» (відаць, запомнілі добры прыклад мінскіх гарадскіх улад, якія дазволілі ў лютым мітынг на стадыёне «Дынама»), але напярэдадні публікацыі твора «Про споры у фонтана» ў «Знамени коммунизма» быў надрукаваны больш важны дакумент, падпісаны старшынёй Баранавіцкага гарвыканкома т. Лабко і сакратаром т. Грычынкам. Дакумент гэты паведамляў:

**«Отказать заявителям в проведении митинга 25 марта 1989 года на стадионе «Локомотив» в связи с нарушением сроков подачи заявления о проведении митинга».**

Баранавіцкія ўлады, трэба сказаць, паставіліся з разуменнем да ініцыятывы выбаршчыкаў. Наколькі мне вядома, ніхто з тых, хто збіраўся каля фантана і агітаваў «за» і «супраць» кандыдатаў у дэпутаты, не быў аштрафаваны ці яшчэ як-небудзь пакараны. Інакш і быць не магло, бо ў час перадвыбарчай барацьбы строга дзейнічаў Закон аб выбарах, які дазваляе падобныя мерапрыемствы. І Закон не быў бы парушаны, каб не «афіцыйная гутарка» міліцыі з мастаком Свістуновічам. Пра яе я ўжо расказваў — цяпер слова за кампетэнтнымі органамі. Але жаданне асадзіць надта жвавых выбаршчыкаў, паказаць ім сваё месца, як кажуць, заўважаеш няўзброеным вокам на старонках аб'яднанай газеты. У гарачую, хоць і аднабаковую дыскусію кідаюцца ўсё новыя сілы. Так, 25 сакавіка, за дзень да выбараў, з артыкулам «Заинтересованно, активно и... безответственно» выступіў сам старшыня акружной выбарчай камісіі па Баранавіцкай нацыянальна-тэрытарыяльнай акрузе № 75 т. Захарчанка. Ягоны допіс — надзвычай цікавы дакумент, але чытаць яго трэба ўважліва, абавязкова трымаючы пад рукою наступны нумар «Знамени коммунизма», дзе на першай старонцы, акурат пад надрукаванымі вынікамі выбараў, кідаецца ў вочы «Поправка» наступнага зместу: «В номере нашей газеты за 25 марта с. г. в статье «Заинтересованно, активно и... безответственно» по вине редакции во второй колонке ошибочно указаны инициалы т. Шута, следует читать: «Шуту Н. А.»; а также неверно названа статья Закона о выборах в третьей колонке — следует читать 47 вместо 37. В перечислении граждан, обратившихся 17 марта в окружную комиссию, ошибочно названа фамилия С. И. Слабченко, вместо нее следует читать: «М. И. Бернат». За допущенные ошибки редакция приносит извинения».

Што ж, памылкі здараюцца. Згадаем прымаўку: не памыляецца той, хто нічога не робіць. На жаль, не мінуў іх і я, рыхтуючы матэрыял «Што ж здарылася ў Баранавічах?» Напрыклад, прывёў пад лістом, дасланым з Баранавіч, прозвішча Мядзведзева. (Ініцыялы, на жаль, у лісце не пададзены). Як цяпер стала вядома, т. Мядзведзеў быў сведкам інцыдэнта каля кінатэатра «Кастрычнік», але ўласнаю рукою ліст у рэдакцыю не падпісваў. Прыкры недагляд з майго боку, за што і прашу прабачэння і ў т. Мядзведзева, і ў чытачоў. Але я адхіліўся. Куды важней тое, што паведамляў у сваім артыкуле выбаршчыкам т. Захарчанка. Ён усенародна вывеў на чыстую ваду ці не самую жахлівую «крамолу» некаторых «безадказных» грамадзян. Мяркуйце самі:

**«В листовках «Сутнасці» идет спекуляция именем секретаря обкома партии В. А. Заломая. Дескать, действуйте, как мы предлагаем, и с м о ж е т е в ы д в и н у т ь и е г о (падкрэслена мною. — У. Я.) Но вот у самого Владимира Александровича спросить его мнение никто из них не удосужился. А ведь он просил городскую партийную организацию не предлагать его кандидатуру для выдвижения еще в период обсуждения этого вопроса в общественных организациях. Подтвердил свою позицию и пребывая в городе в минувший четверг. Все эти действия будоражат людей, нагнетают обстановку, подогревают страсти...».**

Сапраўды, як піша баранавіцкая газета, — «ну уж, граждане хорошие, договорились...» Самаго сакратара абкома, не параіўшыся з ім, захацелі абраць народным дэпутатам СССР! І дарэмна шукаць у артыкуле т. Захарчанкі яшчэ хоць якія-небудзь прыклады супрацьзаконных дзеянняў актывістаў «Сутнасці». Як і рэдактар Валынец, ён проста займаецца аглабельшчынай: «В первый же день появились лозунги, порочащие **наших** (падкрэслена мною. — **У. Я.**) кандидатов... Были и лозунги, не имевшие никакого отношения к выборной кампании в городе, где акцент смещен уже на руководителей республики и области...» Пра факты — не пытайцеся. Іх няма. Дый у такой пісаніне яны неабавязковыя. Між тым, баранавіцкія нефармалы ўсё ж дамагліся свайго. Уладзімір Аляксандравіч Заламай выставіў сваю кандыдатуру на паўторных выбарах. Было ў яго ажно два сапернікі. Але 14 мая разам яны набралі крыху больш за 20 тысяч галасоў, тады як за сакратара Брэсцкага абласнога камітэта партыі, які ў свой час працаваў у Баранавічах, аддалі галасы 153 084 выбаршчыкі. Нечаканыя вынікі? «Не!» — ледзь не ў адзін голас сцвярджаюць жыхары Баранавіч, з якімі даводзілася гутарыць па гэтую тэму. Проста яны добрым словам помнілі У. А. Заламая як кіраўніка гарадской партыйнай арганізацыі, як чалавека, дзверы якога заўсёды былі адчынены для ўсіх людзей з іхнімі клопатамі і бедамі. І для партыйных, і для беспартыйных, і для нефармалаў.

Няма патрэбы адказваць на ўсе рэплікі т. Валынца, які вельмі клапоціцца, каб напісанае мною «дабы не оказаться искаженным, должно быть надежно выверено по камертону жизненной правды...» Вунь як прыгожа сказана. А тое, што ў сваіх бездапаможных «заметках на полях» ён не проста ігнаруе гэты камертон, а наўмысна, не зважаючы на чытачоў, скажае яго, — зусім не хваліць баранавіцкага рэдактара. Тут ужо не даводзіцца гаварыць пра такія паняцці, як грамадзянская адказнасць, прафесійная этыка... Не да іх, калі барацьба ідзе без «двукоссяў» ці «кавычек». І галоўны прынцып такой барацьбы — «не пушчаць» іншай думкі на старонкі газеты і нават — «не сметь думать»!

Я ўжо згадваў прымаўку — «як гукнецца, так і адклікнецца». Валынцова «Кривое эхо» прынесла нам у рэдакцыю немалую пошту. Вытрымкай аднаго з лістоў, аўтарам якога з'яўляецца Уладзімір Пятровіч Будзееў (ён жыве ў Баранавічах, працуе начальнікам патэнтна-ліцэнзійнага аддзела і мае на сваім ліку 10 вынаходніцтваў, быў, як сам паведамляе, «невольным свидетелем» інцыдэнта 23 сакавіка), я і закончу артыкул:

**«Относительно большинства публикаций в «Знамени коммунизма»... Объективность и качество материалов — для редакции понятия вторичные, а первично — «следование курсу», причем уровень и средства неважны — основное вовремя, по звонку. Убогость и бесцветие «компенсируется» претенциозностью. Да, провинция... Но нельзя же так, в конце-то концов!»**

Тут, як кажуць, ні дадаць, ні адняць.

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК.**

**Аляксандр БУЛЫКА,**
доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР

# ДА РОДНЫХ ВЫТОКАЎ

**Моўная сітуацыя ў люстэрку сацыялінгвістыкі**

ЭКАНАМІЧНАЯ інтэграцыя, інтэнсіўная міграцыя і ўсеагульная сярэдняя адукацыя ў спалучэнні з памылковым курсам на поўнае зліццё моў, культур, нацый, які на працягу дзесяцігоддзяў настойліва праводзіўся ў рэспубліцы, прынеслі горкі плён роднай мове карэннага насельніцтва Беларусі. Сёння яе функцыі ў БССР крайне абмежаваны.

Сённяшняй моладзі цяжка ўявіць сабе, што некалі ад Буга да Дняпра, ад Заходняй Дзвіны да Сожа магутна гучала беларускае слова, што родная мова нашых продкаў на працягу стагоддзяў мела не толькі статус дзяржаўнай, але і шырока выкарыстоўвалася ў міжнародных зносінах, што яна, нарэшце, яшчэ некалькі дзесяткаў гадоў назад была афіцыйнай мовай нашай савецкай рэспублікі, дасягнуўшы небывалага за ўсю гісторыю свайго развіцця росквіту. І што гэта лічылі нармальным не толькі беларусы, але і перасяленцы з Расіі і іншых рэспублік, якія стараліся ў кароткі тэрмін авалодаць беларускай мовай, каб выкарыстоўваць яе ў сваёй практычнай дзейнасці.

Валоданне роднай мовай ніколі не перашкаджала беларусам, калі яны жадалі глыбей пазнаёміцца з багатай рускай культурай або проста вучыліся ў савецкай школе, паспяхова засвойваць рускую мову, тым больш што для гэтага ствараліся адпаведныя ўмовы як органамі народнай адукацыі, так і культурна-асветніцкімі ўстановамі, выдавецтвамі, кнігагандлёвымі арганізацыямі, якія забяспечвалі насельніцтва, школы і бібліятэкі вучэбнай літаратурай, арыгінальнымі мастацкімі творамі рускіх аўтараў, рускамоўнымі перыядычнымі выданнямі. І ўмешвацца ў гэты працэс не было патрэбы, бо нават калі чалавек з'яўляўся носьбітам толькі сваёй мясцовай гаворкі, ён лёгка дасягаў узаемаразумення з рускім ці ўкраінцам дзякуючы надзвычайнай блізкасці граматычнага і лексічнага ладу ўсходнеславянскіх моў. Тым не менш, пачынаючы з 30-х гадоў заканамерны ход развіцця беларуска-рускага двухмоўя быў парушаны па прычынах, якія даволі грунтоўна асветлены ў сучасным друку.

Асабліва моцна дысгармонія ў функцыяніраванні дзвюх моў у БССР праявілася ў апошнія тры дзесяцігоддзі. Праўда, фармальна ўсё выглядала як быццам добра. Паводле дадзеных Усесаюзнага перапісу насельніцтва, у 1979 г. беларускай мовай валодала каля 83 працэнтаў насельніцтва рэспублікі, прычым каля 70 працэнтаў жыхароў БССР лічылі яе роднай. Рускую мову ў Беларусі назвалі роднай 28,3 працэнта насельніцтва, а агульны лік асоб, якія валодалі рускай мовай, складаў 81,9 працэнта ўсіх жыхароў рэспублікі. Такія знешне прапарцыянальныя лічбавыя суадносіны ў валоданні насельніцтвам беларускай і рускай мовамі ацэньваліся як станоўчы факт, як выхад Беларусі на авангардную пазіцыю ў дасягненні асноўнай мэты сучаснай моўнай палітыкі — дабіцца максімальнага ахопу нацыянальна-рускім двухмоўем насельніцтва ўсёй краіны. Але адна справа разумець мову і думаць, што валодаеш ёю, а другая — ведаць яе сапраўды і карыстацца ёю, адно гаварыць аб моўнай гармоніі, і зусім іншае — дабіцца гарманічнага двухмоўя ва ўсіх сферах грамадскага, гаспадарчага і культурнага жыцця народаў. Ды і наогул, ці магчыма гэтага дасягнуць?

Зразумела, ні аб ступені валодання беларусамі роднай і рускай мовамі, ні аб канкрэтных сферах функцыяніравання дзвюх моў на сучасным этапе развіцця грамадства, ні аб суадносінах іх у кожнай з функцыянальных сфер статыстычныя дадзеныя нічога не гавораць. Ды і тыя колькасныя паказчыкі, якія ёсць, безумоўна, састарэлі за дзесяць гадоў, што прайшлі пасля 1979 г. Пры гэтым, мяркуючы па тым, як тэндэнцыйна праводзіўся ўжо новы перапіс 1989 г., да ўсякіх лічбавых дадзеных, здабытых такім шляхам, пранікаешся недаверам. Значыць, для таго, каб разабрацца ў сённяшняй рэальнай моўнай сітуацыі ў рэспубліцы, неабходна вялікая даследчая работа, якую і правялі ў апошнія два гады беларускія мовазнаўцы.

ФАКТЫЧНЫЯ дадзеныя, сабраныя ў 1987—1988 гг аддзелам рускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР сумесна з кафедрамі Гомельскага і Гродзенскага універсітэтаў, у выніку сацыялінгвістычнага абследавання 25 сельскіх і 7 гарадскіх раёнаў рэспублікі, аналізу міністэрскіх даведак і запісак, шматлікіх публікацый, якія на працягу апошніх трох гадоў былі змешчаны ў перыядычным друку, дазваляюць зрабіць канкрэтныя вывады аб моўнай сітуацыі ў БССР. Так, яны пераканаўча паказваюць, што на тэрыторыі Беларусі руская мова займае сёння непадзельнае становішча ў сферах грамадска-палітычнага, адміністрацыйнага і вытворчага жыцця. На ўсіх прадпрыемствах і ва ўсіх установах руская мова, як правіла, ужываецца ў афіцыйнай перапісцы і справаводстве, на нарадах, з'яўляецца мовай павышэння прафесійнага ўзроўню работнікаў, мовай тэхнічнай дакументацыі. Яна ж выступае ў якасці рабочай мовы партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных органаў, пачынаючы ад рэспубліканскіх і заканчваючы пярвічнымі. Амаль выключна руская мова выкарыстоўваецца ў сферах транспарту, сувязі, абслугоўвання, гандлю. Гаварыць аб двухмоўі ў пералічаных сферах было б проста несур'ёзна.

Наяўнасць беларускай мовы фіксуецца толькі ў сферах паўсядзённага быту, народнай адукацыі, навукі, масавай камунікацыі, мастацкай культуры. Аднак сцвярджаць, што тут гарманічнае двухмоўе, таксама не прыходзіцца.

Узяць, напрыклад, бытавую сферу. Прынята лічыць, што выкарыстанне нацыянальнай мовы ў бытавых зносінах больш прыкметна практыкуецца ў вёсках, чым у раённых цэнтрах, не гаворачы ўжо аб буйных гарадах, дзе можна пражыць год і не пачуць беларускага слова. Але і ў сельскай мясцовасці яно няўхільна звужаецца ўжо хоць бы таму, што змяншаецца колькасць вясковага насельніцтва, а гарадское павялічваецца. Калі ў 1979 г. сельскія жыхары складалі 45, а гарадскія 55 працэнтаў усёй колькасці насельніцтва рэспублікі, то за дзесяць гадоў працэнтныя паказчыкі, безумоўна, змяніліся яшчэ больш не на карысць вёскі. Так, за перыяд пасля папярэдняга перапісу насельніцтва, ужо к 1 студзеня 1987 г. з вёсак Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці перасялілася ў горад 13 тысяч жыхароў, з вёсак Ушацкага раёна Віцебскай вобласці — больш як 5 тысяч. Аналагічныя перамяшчэнні адбыліся і ў іншых раёнах рэспублікі.

Акрамя таго, звужэнню сферы ўжывання беларускай мовы ў паўсядзённым вясковым жыцці садзейнічаюць і многія іншыя фактары, сярод якіх не апошняе месца займаюць сродкі масавай камунікацыі — радыё, тэлебачанне, прэса. Напрыклад, мала таго, што абласныя газеты Брэсцкай і Гродзенскай абласцей выходзяць на рускай мове, жыхары многіх раёнаў гэтых абласцей пазбаўлены магчымасці чытаць раённыя газеты на роднай мове. Або такая недарэчнасць: адзіная рэспубліканская газета для вёскі «Сельская газета» і часопіс «Сельское хозяйство Белоруссии» выходзяць на рускай мове. У выніку многія жыхары сяла гавораць не на беларускай мове, але і не на рускай, а на нейкай беларуска-рускай моўнай сумесі. Ужо рэдка можна пачуць з вуснаў калгасніцы звычайныя раней словы гародніна, калгас, канапа, цукар, іх замяняюць скажоныя на беларускі манер овощи, колхоз, диван, сахар.

Адначасова менш становіцца моладзі, якая ў дастатковай ступені авалодвае беларускай літаратурнай мовай, бо колькасць вучняў сельскіх населеных пунктаў і адпаведна колькасць школ з беларускай мовай навучання з кожным годам скарачаецца, а ў гарадах і гарадскіх пасёлках, дзе колькасць вучняў павялічваецца, усе школы рускамоўныя. Рускамоўныя школы ўжо не адзінкавыя і ў сельскай мясцовасці. Аб інтэнсіўнасці гэтага працэсу сведчыць той факт, што з 1965 па 1986 г. у рэспубліцы скарацілася колькасць школ з беларускай мовай навучання на 5844 (з 9827 да 3983), г. зн. у 2,5 раза.

Скарачэнне беларускамоўных школ працягвалася і пасля 1986 г. Паводле дадзеных Галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства народнай адукацыі БССР, у 1988/89 навучальным годзе школ з беларускай мовай навучання стала ўжо 3690 (за два гады на 293 школы менш!), з рускай мовай навучання—1726 і з дзвюма мовамі (маецца на ўвазе па адным малакамплектным беларускамоўным класе ў школе) — 26. Здавалася б, колькасная перавага пакуль што яшчэ на баку беларускіх школ. Але ў 1726 школах з рускай мовай навучання налічваецца 1116800 вучняў, а ў 3690 школах з беларускай мовай навучання — 296 300 вучняў, адпаведна 77,7 і 20,6 працэнта (1,7 працэнта складаюць вучні школ з дзвюма мовамі навучання). Але нават і гэтыя, беларускамоўныя школы, часта толькі на паперы беларускія, бо выкладанне большасці прадметаў і пазаўрочная работа праводзіцца ў іх, як правіла, на рускай мове. Прычым перад выпускнікамі беларускіх школ не адкрываецца практычна далейшых моўных перспектыў, бо і ў ВНУ выкладанне амаль усіх дысцыплін вядзецца на рускай мове.

Гэта ж можна сказаць і аб дашкольных установах. У 1987 г. толькі 340 дашкольных ўстаноў, размешчаных у сельскай мясцовасці, г. зн. 15 працэнтаў працавалі па праграме з беларускай мовай выхавання, а астатнія 4 325 дашкольных устаноў БССР былі рускамоўнымі.

Функцыянальныя суадносіны беларускай і рускай моў вызначаюцца на аснове індывідуальнага апытвання насельніцтва. З праанкетаваных у 25 сельскіх раёнах рэспублікі 12 500 прадстаўнікоў найбольш актыўнай часткі насельніцтва — рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў прадпрыемстваў, служачых устаноў, калгаснікаў, настаўнікаў, урачоў, прадстаўнікоў іншых прафесій — прыкладна 85 працэнтаў адказалі, што чытаюць, пішуць і свабодна гавораць па-руску, а астатнія добра разумеюць рускую мову, але пры выкарыстанні яе дапускаюць памылкі пад уплывам родных гаворак. Пры гэтым для размовы з бацькамі карыстаюцца беларускай мовай 22, рускай — 28, з дзецьмі на беларускай мове размаўляюць 12, на рускай — 32, у грамадскіх месцах беларускую мову ўжываюць 10, рускую—48, на сходах на беларускай мове выступаюць 7, на рускай — 77 працэнтаў апытаных. Астатнія выкарыстоўваюць беларускую і рускую мовы папераменна ва ўсіх адзначаных сітуацыях або карыстаюцца так званай «змешанай» мовай.

Дадзеныя па Мінску адрозніваюцца ад паказчыкаў сельскіх раёнаў большай прысутнасцю рускай мовы. Сярод праанкетаваных у сталіцы БССР 3500 асоб розных прафесій 99,8 працэнта лічаць, што свабодна валодаюць рускай мовай.

СФЕРА масавай камунікацыі ўжо часткова закраналася вышэй. Дапоўнім гэту інфармацыю наступнымі дадзенымі. Зараз у рэспубліцы выдаецца 110 часопісаў і бюлетэняў, але толькі 31 з іх на беларускай мове. З выпускаемых у БССР 215 газет 130 на беларускай мове і 80 на рускай, аднак разавы тыраж усіх беларускіх газет амаль у тры разы меншы, чым рускіх. У параўнанні з 1985 г. тыраж шасці рэспубліканскіх газет на беларускай мове знізіўся ў 1989 г. з 325989 да 293487 экземпляраў, а тыраж пяці рэспубліканскіх газет на рускай мове павялічыўся за гэтыя тры гады з 1985199 да 2370716 экземпляраў. З 76 шматтыражных газет 11 выходзіць на беларускай мове і 65 на рускай, у тым ліку такія аўтарытэтныя шматтыражкі, як «За передовую науку» Акадэміі навук БССР, «Гродненский университет» і іншыя.

Адсутнасцю моўнай гармоніі характарызуецца таксама сфера навукі, бо беларуская мова захоўваецца тут толькі ў асобных галінах гуманітарнага профілю.

Застаецца сфера мастацкай культуры. Вось дзе, здавалася б, можна чакаць гарманічнага двухмоўя або нават перавагі беларускай мовы. У Беларусі ж даволі многа пісьменнікаў, творчасць якіх атрымала прызнанне ва ўсесаюзным маштабе, ёсць арыгінальныя кампазітары, мастакі, артысты. Але ці карыстаюцца попытам іх беларускамоўныя творы? На жаль, літаратурным арыгіналам часта прыходзіцца сумаваць на кніжных паліцах, бо многія чытачы аддаюць перавагу не заўсёды кваліфікаваным рускім перакладам, як тая зямлячка В. Быкава, што шукала раман «Кар'ер» на рускай мове, бо ад беларускай у яе «баліць галава» (гл. «Звязда», 1988, 7, IV), а вечары беларускай паэзіі ў дамах культуры нярэдка праводзяцца на рускай мове («Літаратура і мастацтва», 1988, 15, IV). Невыпадкова колькасць выданняў мастацкай літаратуры на беларускай мове на працягу апошняга дзесяцігоддзя знаходзіцца прыблізна на адным узроўні, а тыраж і лістаж іх падае, затое павялічваецца і колькасць, і тыраж, і лістаж літаратурна-мастацкіх выданняў на рускай мове.

Супаставім дадзеныя па выпуску мастацкай літаратуры на беларускай і рускай мовах у 1981 і 1987 гг. Дык вось, у 1981 г. у Беларусі было апублікавана 116 кніг на беларускай мове і 58 (г. зн. роўна ў 2 разы менш) на рускай. Агульны тыраж 116 беларускіх выданняў склаў 1307000 экземпляраў, а 58 рускіх — 9794000 экземпляраў. Аб'ём беларускіх выданняў — 21518000, рускіх — 193876000 друкаваных аркушаў. У 1987 г. беларуская мастацкая літаратура папоўнілася 113 кнігамі (на 3 адзінкі менш, чым у 1981 г.), лік выданняў на рускай мове вырас у параўнанні з 1981 г. на 16 адзінак (74 кнігі). Тыраж беларускай кнігі знізіўся да 945000, рускай вырас да 20678000 экземпляраў. Аб'ём беларускай кнігі скараціўся да 15035000, рускай павялічыўся да 512480000 друкаваных аркушаў.

Калі ж супаставіць выпуск па мовах усёй кніжнай прадукцыі, то атрымаецца малюнак яшчэ больш несуцяшальны. Возьмем зноў тыя ж гады. У 1981 г. выдавецтвамі Беларусі было выпушчана 385 кніг і брашур на беларускай мове і 2713 на рускай, у 1987 — 375 кніг і брашур на беларускай мове і 2507 на рускай. Як можна заўважыць, зменшылася па нейкай прычыне колькасць і тых, і іншых выданняў. Але калі агульны тыраж беларускамоўных выданняў у 1987 г. таксама скараціўся ў параўнанні з 1981 г. з 7949000 да 6266000 экземпляраў, а лістаж з 93406000 да 64007000 друкаваных аркушаў, то агульны тыраж рускамоўных выданняў павялічыўся з 31917000 да 49406000 экземпляраў, а лістаж з 389166000 да 822519000 друкаваных аркушаў.

Такія зрухі ў моўных суадносінах кніжнай прадукцыі адбыліся ў БССР толькі за 6 гадоў. Значна большы разрыў можна назіраць, калі ўзяць за пункт параўнання не 1981 год, а 1940, 1950 або нават 1960, 1970 гг. Вынікі выдавецкай справы за 1988 год яшчэ не апублікаваны, але думаецца, што беларуская частка гэтых дадзеных яшчэ ніжэйшая, чым у папярэднім годзе. Толькі ў выдавецтве АН БССР «Навука і тэхніка» ў 1988 г. не былі апублікаваны дзевяты выпуск «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы», пяты том «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» і шэраг іншых планавых кніг, звязаных з нацыянальнай тэматыкай. Выдавецтва свядома затрымала іх выпуск у сувязі з тым, што збіралася пераходзіць на гаспадарчы разлік, а значыць яму няма ніякага разліку звязвацца з бесприбытковымі беларускамоўнымі навуковымі працамі, на якія нават мінімальны тысячны тыраж цяжка наскрэбсці. А зараз ва ўсе інстытуты Аддзялення грамадскіх навук паступіла пагрозлівае пісьмо ад выдавецтва, што кнігі не будуць выдадзены, пакуль інстытуты не ўнясуць грашовых сродкаў на іх выданне. Ад Інстытута мовазнаўства,

**(Працяг на стар. 12).**

**Дзве думкі**

**У нумары штотыднёвіка за 25 лістапада 1988 г. пад загалоўкам «Нам засталася спадчына» друкаваліся матэрыялы «круглага стала» «ЛіМа», прысвечанага вяртанню літаратурнай спадчыны. Удзельнікамі гаворкі згадваліся імёны пісьменнікаў і палітычных дзеячаў 20—30-х гадоў, творчыя здабыткі якіх да сённяшняга дня не ўведзены ў агульнанародны ўжытак. Не толькі гістарычныя абставіны, але і часам рысы характару фарміравалі лёс нашых адраджэнцаў. Сярод іх і Антона Луцкевіча, пра рэабілітацыю якога «ЛіМ» не так даўно паведамляў.**

**Безумоўна, Антон Луцкевіч асоба ў нашай гісторыі неардынарная. Невыпадкова погляды і дзейнасць яго выклікаюць сярод літаратуразнаўцаў не толькі вялікую зацікаўленасць, але і спрэчкі. Праблемы, якія закранаюцца ў змешчаных сёння пад рубрыкай «Дзве думкі» артыкулаў У. Калесніка і У. Казберука, выходзяць за рамкі прыватнай палемікі пра асобу А. Луцкевіча. Ад вырашэння многіх з гэтых праблем залежыць будучыня нашай культуры.**

# На крутых паваротах гісторыі

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

Я НЕ СТАЎЛЮ задачу ў гэтым артыкуле намаляваць творчы партрэт Антона Луцкевіча. Патрэбна вялікая работа, каб прасачыць крок за крокам яго жыццёвы шлях, паразважаць і пра тое, што мы называем словам «заблуджэнні», і пра яго бясконцую самаахвярнасць. Ды і пра тое, што на нейкіх этапах ён мог і зняверыцца ў магчымасці ажыццяўлення ідэалаў, перамогі праўды і справядлівасці. 30-я гады давалі для гэтага дастаткова падстаў.

Пачну я з самага апошняга выказвання пра А. Луцкевіча. Нават такі ўдумлівы даследчык, які на кожным кроку паказвае прыклады руплівых і дбайных адносін да нацыянальнай спадчыны — і самай далёкай і найбольш блізкай, — нават У. Калеснік не ўтрымаўся, каб неяк вельмі ж неабдумана абвінаваціць: «Нехта павінен тэарэтычна абаснаваць, колькі ў тагачасных публікацыях правамернай крытыкі сталінскіх парадкаў і колькі антысаветчыны. Я не заклікаю рэабілітаваць Антона Навіну (Антона Луцкевіча. — **У. К.**), яго пазіцыю. Навіне нельга даравацць здраду Тарашкевічу і Грамадзе. Ён жа на судовым працэсе адкалоўся ад іх і стаў з абвінавачанага сведкам, інфарматарам пракурора» («ЛіМ», 25.XI.1988 г.).

Паколькі гаворка тут зайшла пра суд над Грамадой, дык з гэтай падзеі і пачну. Ды не сваімі словамі, а той ацэнкай, якую дала ёй газета «Правда» ў канцы лютага і пачатку сакавіка 1928 года. Яна паведамляла пра віленскі працэс у карэспандэнцыі з Варшавы: «Большое впечатление производит речь Антона Луцкевича, в течение 25 лет связанного с белорусским движением.

«Понятно, — говорит Луцкевич, — есть и моя доля трудов в том белорусском движении, которое теперь разрушается». В последнее время по состоянию здоровья Луцкевич ушел от политической работы и посвятил себя исключительно научной и культурной деятельности. Его впутали в процесс потому, что имя его слишком связано с возрождением белорусского движения. «Я не был согласен по всем пунктам с Громадой, — говорит далее Луцкевич. — Редактором громадовских изданий я не был и работал в них лишь в качестве журналиста и публициста». Так сцвярджалася ў 51-м нумары газеты «Правда». А ў № 53 паведамлялася пра заяву паліцэйскага камісара Васілеўскага: «На вопрос Луцкевича Василевский заявляет, что Луцкевич был душой белорусского движения и руководил этим движением, согласно указаниям Коминтерна. Если бы Луцкевич воспротивился, Громада не возникла бы».

Некалькі раней, у 1927 годзе, «Большая Советская Энциклопедия» (т. V, с. 374) сцвярджала, што ў «беларускай публіцыстыцы найвыдатнейшым з'яўляецца А. Навіна».

Вось якім бачыўся А. Луцкевіч да-ягодаўскага, да-яжоўскага, да-берыеўскага перыяду. Мы маем магчымасць пераканацца, што і той суд можна было ацэньваць інакш, а не так, як уяўляе сабе У. Калеснік (і як ён ацэньваўся часткай заходнебеларускага друку). Варта нагадаць, што і Б. Тарашкевіч пры сваіх непрыязных адносінах да паводзін А. Луцкевіча не мог яго абвінаваціць у тым, што ён якія-небудзь сакрэты выдаў паліцыі. А ведаў, бясспрэчна, шмат. Падрабязна пра ўсё гэта піша польская даследчыца Аляксандра Бергман у сваёй манаграфіі «Беларускія справы ў II Рэчы Паспалітай» (Варшава, 1984).

А. Бергман не хавае таго, што А. Луцкевіч адмежаваўся ад Грамады. «Сваімі паводзінамі, — адзначае даследчыца, — А. Луцкевіч дасягнуў дзвюх мэт: выйшаў на свабоду і выратаваўся ад падрабязнага следства. Аднаго і другога, напэўна, моцна жадаў».

Чаму «моцна жадаў»? Тут нам давядзецца выкарыстаць некаторыя дадатковыя звесткі. Паліцэйскі камісар на тым жа працэсе сцвярджаў, што А. Луцкевіч падтрымліваў кантакты з Кампартыяй праз розных асоб і выкарыстоўваў сродкі, якія даваў Камінтэрн. («Правда», 1928, № 53). Мяркуючы па ўсяму, аднак, хоць і называў прозвішчы пасрэднікаў (Лагіновіч, Бурын, Бабровіч, Сняткоў), даказаць гэтага не мог.

Прыблізна ж у гэты час, 28 студзеня 1928 г., у Варшаве, у другім аддзеле Польскага генеральнага штаба (аддзеле разведкі) была закончана работа над вялікім сакрэтным дакументам «Кароткі нарыс беларускага пытання». Там, у прыватнасці, на стар. 219—220 паведамлялася, што ў 1923 г. польская разведка нібыта перахапіла ліст А. Чарвякова да А. Луцкевіча. І не абы-які ліст. Вось яго змест:

«Дарагі Антон. Прабач мне, калі ласка, за маё такое доўгае маўчанне. Я не меў магчымасці пераслаць Вам усё тое, пра што мы дамаўляліся. Усё тое, што Вы прасілі, пасылаю Вам Бандарчуком. Долары перашлём Соняй. У друку паведамляйце, што грошы атрымалі з Амерыкі.

За агітацыю ў перыёдыцы я Вам вельмі ўдзячны. У Маскве ёю вельмі задаволены.

Прышліце каго-небудзь на з'езд Саветаў. Літаратуру друкуем. Прасіце ўсё, што трэба — будзем Вам пасылаць...»

Думаецца, што калі б Васілеўскі меў у руках гэты матэрыял, ён бы яго выкарыстаў. А калі ведаў і выкарыстаў, але не публічна, а ў працэсе допытаў? Тады Антон Луцкевіч вымушаны быў бы вырашаць: або прызнаць сябе платным агентам чужой дзяржавы, або публічна адмежавацца ад дзейнасці Грамады. І ў гэтым выпадку яму нават не давялося б уступаць у канфлікт са сваім сумленнем, таму што членам Грамады ён і сапраўды не з'яўляўся.

А ці не мог ён раней даведацца пра існаванне гэтага ліста ў руках разведкі? Ці выпадкова ў сярэдзіне 20-х гадоў ён адышоў ад палітычнай дзейнасці і асноўныя сілы аддаваў літаратурнай крытыцы?

Пытанняў узнікае шмат. І розных магчымых адказаў на іх — таксама. Настала пара заняцца сур'ёзнымі мэтанакіраванымі пошукамі ў розных архівах, у тым ліку і ў архівах Камінтэрна. А пакуль што можна дапускаць розныя версіі. Апрача той, што ён здрадзіў беларускай справе і стаў інфарматарам пракурора.

У дзейнасці А. Луцкевіча не раз заўважаецца нешта такое, што можна было б назваць дваістасцю. У 1922 г. ён з усёй энергіяй уключыўся ў кампанію па выбарах у польскі сейм. Але сваю кандыдатуру, нягле-

# Памяць — настаўніца жыцця

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

ВЫСЛОЎЕ, пазбаўленае кантэксту, як вядома, губляе або змяняе сэнс. Так здарылася, я лічу, і з маім выказваннем пра рэабілітацыю Антона Луцкевіча (Навіны) ў «круглым стале» «ЛіМа» (25 лістапада 1988 г.). Таму хачу аднавіць кантэкст гаворкі, унесці належныя ўдакладненні ды паспрабаваць шырэй глянуць на пытанне, якое ўваходзіць у адну з балючых зон народнай памяці і сёння патрабуе публічнага абмеркавання ў друку.

А. Сідарэвіч, жадаючы вярнуць літаратуры несправядліва забытага асветніка, публіцыста і крытыка А. Навіну, падвёў яго біяграфію пад канон ідэалізацыі: Луцкевіч быў сацыяліст, схіляўся да меншавікоў, а нацыяналістам ён не быў, ёсць у заходнебеларускім друку выказванне, што ён крытыкаваў толькі Сталіна, але сімпатызаваў Леніну. Выходзіла, што Антон Луцкевіч (А. Навіна) больш прагрэсіўны за Браніслава Тарашкевіча і, напэўна, за кіраўніцтва КПЗБ, адным словам — анёл, прадвеснік перабудовы. Мне падалося, што А. Сідарэвіч недастаткова ўлічвае рэальныя ўмовы публічнага жыцця буржуазнай Польшчы, дзе палітычныя пазіцыі дзеячаў выступалі ўсё ж дастаткова адкрыта, погляды палітыкаў не былі для грамадскасці сакрэтам. Наогул не мае сэнсу рэабілітацыя каго б там ні было па льготным тарыфе і адным махам: юрыдычна, палітычна і маральна.

Што датычыць юрыдычнай рэабілітацыі А. Луцкевіча, дык ён мае на гэта поўнае права, як і ўсе ахвяры беззаконнасці. Сёння грамадскасць, і я ў тым ліку, толкам не ведаем, за што ён быў арыштаваны, у чым абвінавачваўся, як даказвалася яго віна. А. Луцкевіч як грамадзянін быў пазбаўлены права на адкрыты судовы працэс, на выбар адваката, пакліканне сведкаў, адным словам, на самаабарону. Вядомы палітычны, грамадскі і культурны дзеяч, асветнік, літаратуразнавец і педагог загінуў як бяспраўная ахвяра самаволі, беззаконнасці, паталагічнай класавай нянавісці, таму імя яго заслугоўвае на рэабілітацыю. Самы спрэчны пункт ацэнкі А. Сідарэвіча запазычаны ў ветэрана рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі, вядомай польскай даследчыцы Аляксандры Бергман, аўтаркі палітычнага партрэта А. Луцкевіча. Яна гаворыць, што А. Луцкевіч, як і Б. Тарашкевіч і іншыя дзеячы левага крыла беларускага вызваленчага руху, не быў нацыяналістам.

Аднак А. Сідарэвіч не прыгадаў істотнага ўдакладнення А. Бергман: «Быў нацыяналістам у тым сэнсе, што беларускую, ці нацыянальную справу ставіў над усімі іншымі, у тым ліку і над справай класавай».

Не бяруся зараз ні абвяргаць, ні прызнаваць слушнасці абодвух выказванняў, лічу адназначную ацэнку прынцыпова немажлівай у сувязі з існуючай у нас яшчэ заблытанасцю паняццяў. Слова «нацыяналізм» у сталінскія часы азначала абвінавачанне ва ўсіх смяротных грахах: здрадзе народу, дзяржаве, справе рэвалюцыі і г. д. Біркі нацыяналістаў навешваліся аўтаматычна тым, хто быў на паслугах у польскай адміністрацыі, потым у гітлераўскіх акупантаў, хоць часта паслугачамі станавіліся сацыяльна непаўнацэнныя элементы, людзі, якія не дараслі да нацыянальнай свядомасці.

Ідэолагі сталіншчыны перайначылі паняцце нацыяналізму ў пудзіла, ураўнялі з нацыянальнай дэмакратыяй і нацызмам. Яно стала «дзікай» гіпербалай, умоўнай славеснай фігурай, непрыдатнай для аб'ектыўнай навуковай ацэнкі ідэйна-палітычных поглядаў сацыяльных груп і асобных людзей. У той жа час дакладна ўстанавіць, ці ёсць у свядомасці і паводзінах дзеяча, які належыць да невялікай прыгнечанай нацыі і ўдзельнічае ў вызваленчым руху, менавіта нацыяналізм — вельмі няпроста і даволі небяспечна для ісціны. Барацьба прыгнечанага народа супраць прыгнёту ўспрымаецца здаровым сумленнем як акцыя справядлівай самаабароны, змагання за свабоду. У. І. Ленін гаварыў, што «ў кожным буржуазным нацыяналізме прыгнечанай нацыі ёсць агульнадэмакратычны змест супраць прыгнёту і гэта... мы безумоўна падтрымліваем» (т. 25, с. 275). Ва ўмовах нацыянальна-вызваленчых рухаў патрэбна асудзіць праявы агрэсіўнага нацыяналізму, такія, як нацкоўванне сваіх супляменнікаў супраць прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, дамаганне прывілеяў для сваёй нацыі. Нічога такога ў працах А. Навіны (Луцкевіча) я не сустракаў, хоць і ўдзячнасць рускаму народу, якой патрабуюць вульгарызатары ў якасці алібі ад усіх падазроных, — таксама. Прыветныя жэсты А. Луцкевіча ў кірунку палякаў тлумачацца падабенствам іх становішча з беларусамі ва ўмовах царскай Расіі, а пазней — палітычнаю тактыкай, паддобрываннем да Пілсудскага, якое прынесла А. Луцкевічу ў 1919 годзе канфуз. Так, з 1918 і па 1920 ён меў антыкамуністычную арыентацыю; праўда, і кіраўніцтва камуністычных арганізацый у прыфрантавой Беларусі не ішло насустрач нацыянальным дамаганням мясцовага насельніцтва, утварыла Заходнюю вобласць, Заходнюю камуну, але не БССР.

Захады па адраджэнні беларускай дзяржаўнасці, што вялі ў ініцыятыўным парадку патрыятычныя сілы беларускага народа ажно да ўстанаўлення БССР на тэрыторыі, адпавядаючай этнічным межам рассялення беларусаў, роўна як і дзеянні па ўз'яднанні беларускага народа ў адзінай дзяржаве пасля Рыжскага міру (1921 — 1939), нельга кваліфікаваць як праявы нацыяналізму, паколькі ў іх лідзіравалі лева-дэмакратычныя групоўкі і дзеячы.

А. Сідарэвіч, мне здаецца, не ўлічыў агульнай высновы польскай даследчыцы пра непрыдатнасць А. Луцкевіча на ролю палітычнага лідэра з-за няўстойлівасці характару і кампраміснасці. Як вядома, у маладосці ён прывык іграць другую скрыпку пры старэйшым браце Іване. Але ў часе хваробы брата і пасля яго смерці, што наступіла ў санаторыі Закапанэ ў 1919 годзе, А. Луцкевіч, вылучаны лідэрам вызваленчага руху, паддаўся правым нацыяналістычным настроям, адмовіўся ад галоўнага прынцыпу праграмы адраджэння, уведзенай яшчэ К. Каліноўскім — гэта двухадзінства класавага і нацыянальнага. Ён замкнуўся на дактрыне незалежнай дзяржаўнасці і страціў падтрымку радыкалаў і народных нізоў, якім патрэбны былі зямля, хлеб, а тады і нацыянальная свабода.

Ідэя незалежнай дзяржаўнасці ўжо ў 1919 годзе станавілася анахранізмам і падрывала прэстыж БССР, дзе з пачатку 20-х гадоў ажывала народная культура, мова, пачалося свабоднае развіццё беларускай нацыі на шляхах будаўніцтва сацыяліз-

дзячы на ўвесь свой уплыў і аўтарытэт, выставіць адмовіўся. І ў значнай меры дзякуючы яго намаганням група беларускіх дзеячаў была выбрана. У больш позні час членам Грамады не стаў, але публікаваўся ў яе выданнях. Не з'яўляўся і членам КПЗБ, але ў 20-я гады публічна і адкрыта сцвярджаў, што народ Савецкай Беларусі дабіўся сваёй дзяржаўнасці і што толькі на Усходзе ажыццяўляюцца спрадвечныя мары беларускага народа, бо палітыка Савецкай улады адкрыла неабмежаваныя магчымасці для развіцця нацыянальнай культуры.

У. Калеснік хацеў бы ведаць, дзе была крытыка Сталіна (апраўданая, бясспрэчна), а дзе — звычайная антысавецтчына. А хіба ж хтосьці аддзяляў Сталіна ад Савецкай улады, а Савецкую ўладу ад Сталіна? Ці мог хто-небудзь у 30-я гады супрацьпастаўляць іх?

І тым не менш, як гэта ні дзіўна, А. Луцкевіч не ставіў знак роўнасці паміж імі. Нам сёння цяжка гэта ўявіць, але на рубяжы 20-х і 30-х гадоў ён адчуў, што ў дзейнасці Сталіна вызначылася парушэнне марксісцкіх і ленінскіх ідэй! А вось Б. Тарашкевіч не зразумеў гэтага і жорстка паплаціўся.

Ці выпадкова Фабіян Акінчыц яшчэ ў 1931 г. абвінавачваў А. Луцкевіча ў тым, што той толькі Сталіна крытыкаваў, але заўсёды заставаўся прыхільнікам ідэй Леніна?! Гэты вельмі цікавы факт паведамляе А. Бергман са спасылкай на адпаведныя крыніцы. І ці можам мы сёння рабіць «хімічны» аналіз артыкулаў А. Луцкевіча 30-х гадоў, каб аддзяляць крытыку Сталіна ад антысавецтчыны? Калі б мы заняліся такога роду пошукамі, то знайшлі б яшчэ і прыклады ідэйнай разгубленасці і непаслядоўнасці.

Наогул калі мы будзем з біяграфіі таго ці іншага пісьменніка або грамадскага дзеяча — у адпаведнасці з традыцыямі 30-х гадоў — выхопліваць нейкія факты, закрэсліваючы ўсё іншае, то ў нас не застанецца ніводнага чалавека, якому нельга было б нічога нагадаць.

Вазьму толькі два факты. Міхал Федароўскі, якога мы ўсе так шануем, у 1917 г. быў адным з тых, хто падпісаў зварот да так званай Рэгенцыйнай Рады (яна выконвала функцыі часовага ўрада яшчэ задоўга да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці Польшчы) з катэгарычным патрабаваннем стварыць моцную армію, каб сілай далучыць да Польшчы Беларусь.

А як Браніслаў Тарашкевіч, якога У. Калеснік супрацьпастаўляе Антону Луцкевічу? Аднак менавіта ж ён, Браніслаў Тарашкевіч, у канцы ліпеня 1919 г. узначальваў беларускую дэлегацыю, якая атрымала ад Пілсудскага ласкавы дазвол на стварэнне Беларускай вайсковай камісіі і арганізацыю антысавецкай арміі.

Гісторыя ёсць гісторыя, і не нам яе папраўляць ці паляпшаць. Але жалезная логіка гісторыі, геніяльнасць ленінскай думкі былі такія, што Б. Тарашкевіч непазбежна прыйшоў да прызнання ідэй Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як і Язэп Лёсік. Як і Змітрок Бядуля. Як і Максім Горкі, аўтар серыі антыленінскіх, антыбальшавіцкіх артыкулаў, сабраных і апублікаваных у 1918 г. у Петраградзе асобнай кніжкай пад назвай «Несвоевременные мысли».

А што пісаў А. Луцкевіч у канцы 20-х гадоў? У 1929 годзе, гэта значыць, пасля працэсу над Грамадой, з'яўляецца ў друку яго кніга «Адбітае жыццё», дзе былі сабраны даклады, выступленні і артыкулы, прысвечаныя пераважна беларускай літаратуры. І вось толькі адна цытата з публікацыі, датаванай 6-м студзеня 1929 года: «...Рэвалюцыя, зламаўшы магутным ударам усю хітрую будоўлю старое царскае і капіталістычнае Расеі, сама сабой мусіла назаўтра ад руйнавання перайсці да будавання. І гэтае рэвалюцыйнае будаўніцтва жыцця Беларусі на новых падвалінах выклікае ў Купалы новыя настроі — настроі вольнага чалавека, пэўнага ў сваёй сіле, будаўніка лепшае будучыны для свайго народу. (...)

Ясна, што ў тым новым ладзе, які настаў ва Усходняй Беларусі, жыццё мусіла навяваць і новыя думкі Купале. І вось новыя песні ліюцца з душы ягонай». Так сказана ў артыкуле «Напевы ліры Янкі Купалы». Так на працягу ўсяго перыяду 20-х гадоў пісаў чалавек, якога сёння фальсіфікатары нашай айчыннай гісторыі і культуры бэсцяць на ўсе лады, называюць прыслужнікам то нямецкіх акупантаў, то Пілсудскага. А тое, што яшчэ ў 1920 г. А. Луцкевіч выдаў у Вільні на польскай мове брашуру «Польская акупацыя ў Беларусі», не мае чамусьці для такіх «гісторыкаў» ніякага значэння.

У перыяд першай сусветнай вайны, на нейкім этапе, ён лаяльна адносіўся да нямецкіх акупацыйных улад. Але можна нагадаць, што іменна тады ўпершыню адкрылася шмат беларускіх школ. Праўда, дазвол такі даваўся не для таго, каб ашчаслівіць беларускі народ, а каб яго адгарадзіць ад рускага і польскага народаў, каб супрацьпаставіць ім. Але, у сваю чаргу, і А. Луцкевіч не надта разлічваў на міласць акупантаў. І таму ў канцы 1915 г. — а гэта ж быў пачатковы перыяд акупацыі — ён, разам з іншымі беларускімі дзеячамі, стварыў у Вільні падпольны камітэт, які накіроўваў дзейнасць легальных беларускіх арганізацый.

Вядома, сёння мы маем дастаткова падстаў, каб прад'яўляць А. Луцкевічу абвінавачанні за дзейнасць перыяду 1917—1920 гадоў. Але ці спрабаваў хто-небудзь разабрацца ў іх аб'ектыўна, з улікам канкрэтных гістарычных абставін?

Беларускаму нацыяналізму ўжо і тады супрацьстаяў інтэрнацыяналізм — досыць своеасаблівага кшталту. Нагадаю, як ён выглядаў у інтэрпрэтацыі аднаго з найбольш вядомых дзеячаў той пары Вільгельма Кнорына: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток. Белорусское же движение является таким воздвижением новых национальных рогаток, не существовавших до сих пор, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было виде принимать участие в этом движении». («Звезда», 12.IX.1918). Можна нагадаць, што пагром беларускай нацыянальнай культуры пачаўся артыкулам таго ж самага «інтэрнацыяналіста» Кнорына «Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытанні», апублікаваным у 4-м нумары часопіса «Асвета» 1928 год.

А калі ўжо з Савецкай Беларусі тымі ці іншымі шляхамі пачалі паступаць трывожныя весткі, дык ці мог А. Луцкевіч заставацца абыякавым да ўсіх падзей, звязаных з «вялікім пераломам» не толькі ў жыцці вёскі, але і ў культурным будаўніцтве, ва ўсім лёсе беларускага народа?

І вось наступіў верасень 1939 года. А. Луцкевіч выступіў у Вільні з прамовай, у якой шчыра, з энтузіязмам вітаў уз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве: «...Зноў Беларусь стала адзінай. Ніякія межы больш не будуць падзяляць адзіную родную беларускую зямлю. У дружбе будуць жыць працоўныя беларусы.

Вялікая работа прадстаіць па аднаўленню ўсяго таго, што гадамі мялася і заціскалася, што бязлітасна знішчалася польскімі панамі. Трэба занава аднаўляць загнанае ў глыбокае падполле беларускае мастацтва, мову, культуру. (...)

Стварэнне адзінай свабоднай Савецкай Беларусі адкрые для беларускай культуры шлях шпаркага развіцця ўперад...»

Не думаю, што гэтым выступленнем А. Луцкевіч замольваў свае «грахі» перад Сталіным або разлічваў на тое, што даб'ецца спагады для сябе асабіста. Цяжка ўявіць сабе, што ён, з такім багатым жыццёвым і палітычным вопытам, мог спадзявацца на спагаду ці дараванне за яго антысталінскія выступленні. Але ён ведаў не горш за каго б там ні было, што ўз'яднанне ў адзінай дзяржаве адпавядала найбольш істотным патрабаванням усяго беларускага народа. І сам ён нікуды не ўцякаў, а застаўся са сваім народам.

Не ведаючы маштабаў сталінскіх рэпрэсій, ён мог нават шчыра верыць у тое, што «не будзе больш працоўны беларус застрашацца турмой і бесчалавечнымі здзекамі». Іменна такімі словамі заканчваецца прамова, якая з усёй пераканаўчасцю сведчыць аб тым, што А. Луцкевіч гатоў быў без хістанняў, шчыра працаваць на карысць беларускай культуры ва ўмовах Савецкай улады. Але такой магчымасці яму — як і многім іншым — не далі.

А. Луцкевіч — адзін з тых, каго называюць «людзьмі з мінулага». Быў ён і сапраўды чалавекам «з мінулага». З таго мінулага, дзе сваёй самаахвярнай, патрыятычнай дзейнасцю людзі здабывалі не званні, чыны і ўзнагароды, а траплялі ў турмы, цярпелі маральныя і фізічныя пакуты. Рухаліся туды, дзе ім суджана было згарэць за сваю ідэю.

му. А. Луцкевіч парваў сувязі з Пілсудскім яшчэ ў 1920 годзе, асудзіў нацыянальны эгаізм яго палітыкі ў Заходняй Беларусі, назваў гэтую палітыку ў загалоўку сваёй крытычнай брашуры «Польская акупацыя на Беларусі» і падтрымаў як старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта нарастанне ў беларускіх патрыятычных асяродках Польшчы, Латвіі, Літвы, Чэхаславакіі сімпатый да БССР. У яго кнізе «Адбітае жыццё» (1922) сцвярджаецца, што на ўсходзе рабочыя і сяляне будуюць Беларусь, і хоць не на ўсіх землях беларускіх, але адраджаецца дзяржаўнасць.

БССР аказвала ў 20-я гады вялікую маральную і палітычную падтрымку заходнебеларускаму насельніцтву. Гэта была і матэрыяльная дапамога па лініі Чырвонага Крыжа вучням Віленскай беларускай гімназіі, што пражывалі ў інтэрнаце — прысылка падручнікаў, кніг і часопісаў Управе Таварыства беларускай школы і многае іншае. Ведаючы гэта, А. Луцкевіч хваліў поспехі БССР у развіцці нацыянальнай культуры, таму невыпадкова, калі ён апынуўся ў Віленскай следчай турме як падазроны ў супрацоўніцтве з БСРГ, газета «Правда» змясціла яго партрэт у ліку праследуемых беларускіх дзеячаў, а «Звязда» апублікавала прысвечаны А. Луцкевічу верш У. Жылкі, у якім паэт усслаўляў плеяду важакоў і духоўных натхніцеляў беларускага адраджэння. Ды вось на судзе А. Луцкевіч публічна адрокся ад БСРГ і ад Б. Тарашкевіча. Сваім адступніцтвам кінуў цень на іншых лідэраў як людзей, якія, нібыта падпарадкаваўшыся камуністам, паставілі пад удар арганізацыю. Дапамог уладам умацаваць пракурорскую версію віны, створаную рэакцыяй для расправы з вызваленчым рухам. Як зразумець і ацаніць такія паводзіны? Сучаснікі назвалі іх здрадай. Слушна. Вось гэта і стрымлівае мяне ад безагаворачнага далучэння да пахоплівай маральнай рэабілітацыі А. Луцкевіча, якая носіцца ў паветры. Магу прапанаваць толькі сваю версію змякчальных абставін. Прыроднаю рысай А. Луцкевіча, мне здаецца, увесь час быў мастакоўскі індывідуалізм. Пад уплывам абставін самасць яго натуры то зацісквалася, то ажывала, у апошніх выпадках ён станавіўся мала прыдатным да працы ў палітычных арганізацыях. Трагічна выбухнуў канфлікт сацыяльнага з прыроджаным у часе следства і суда над БСРГ. Як зазначае Б. Тарашкевіч, А. Луцкевіч увогуле не прыняў партыйнага білета гэтай магутнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі, супрацоўнічаў у працэсе па дагавору, часам ухіляўся ад нямілых даручэнняў, не адчуваў у сабе патрэбнага ўдзельніку палітычнай акцыі калектывізму, салідарнасці і дысцыпліны. Пры спакойным стане грамадскага жыцця ён бы, відаць, займаўся толькі творчай працай — публіцыстыкай, крытыкай — і меў бы поспех. Ці не з тугі па такім стане грамадства і такім занятку А. Луцкевіч пачаў дзівачыць на судзе, ажно спрэс эпатаваў ксяндза Адама Станкевіча сваёй паляка-беларускасцю. Здольны прыстасоўвацца да абставін палітык, раптам ударыў у хамут і ў аглоблі.

Дзеля асабістай карысці, захавання добрага імя яму ж выгадна было гуртавацца з кіраўнікамі БСРГ і ўмацаваць сваю пазіцыю ў вызваленчым руху. А ён паступіў супраць сябе, можна сказаць, ірацыянальна. Чаму? Спакваля ўзяла верх мастакоўская патрэба свабоды. Мажліва, у адзіночнай камеры азваўся і зацісканы на волі інстынкт захавання віду, які перамог родавае пачуццё абавязку. Інакш, чаму ж папоўніў палітычнае самагубства дзеяч, які па прыродзе быў пераважна здольным чалавекам свабоднай прафесіі ды пакутліва зносіў абавязкі функцыянера. І тым не менш, не мог жыць без абавязкаў...

На пабоішчы БСРГ паўстала так званая беларуская санацыя, альянс кансерватыўных палітычных груповак і культурна-асветніцкіх арганізацый—Цэнтрсаюз. Персанальнаю шыльдай гэтага аб'яднання стаў трыумвірат: А. Луцкевіч, Р. Астроўскі, Ф. Акінчыц. Палітычная пазіцыя згуртавання была ўхілістая: не толькі лаяльная ў адносінах да ўрада, а нават угодніцкая «апазіцыя» і заядлы антыкамунізм. Ва ўмовах нарастаючага крызісу, росту радоў КПЗБ і абвастрэння класавай барацьбы ў пачатку 30-х гадоў такая групоўка не магла знайсці сацыяльнай базы ні ў горадзе, ні ў вёсцы. БХД, якая ў вачах урада і дробнабуржуазных пластоў мела больш саліднасці: яснае антыкамуністычнае алібі і цвёрдую апору на моцных гаспадароў-католікаў Віленшчыны, падстаўляла ножку Цэнтрсаюзу, і ён не закараніўся ў народную глебу, проста папоўніў калекцыю палітыканскіх тарадаек. Трыумвірат распаўся, што называецца, з музыкай: Фабіян Акінчыц выдаў за свой кошт аднадзёнку «Беларуская праўда», дзе абазваў А. Луцкевіча патайным камуністам, які хоць ушчувае Сталіна, але сімпатызуе Леніну. Па сутнасці гэтае абвінавачанне было рэхам пракурорскай версіі, выказанай на судзе над БСРГ. Пракурор сцвярджаў там, нібыта А. Луцкевіч практыкуе макіявелізм, калісьці, маўляў, ён служыў кайзераўскім агентам, а цяпер стаў савецкім. Нагавор Акінчыца не мог зашкодзіць Луцкевічу. Ён жа сам на следстве па справе БСРГ назваў сябе «паляка-беларусам, атэістам і прыхільнікам тэорыі Маркса».

Усё гэта было ўспрынята, як дэманстрацыя светапогляднай нестандартнасці. За погляды суд не меў права караць, а прызнанне ў такой пікантнасці арыентацыі прыцягвала да падсуднага ўвагу левай апазіцыі, абуджала прыхільнасць розных груп вальнадумнай інтэлігенцыі, што выступала за поўную свабоду думкі і сумлення.

Цэнтрсаюз захірэў, альянс распаўся. А. Луцкевіч аказаўся ў сітуацыі палітычнага банкрута, падаўся ў культурна-асветніцкую сферу, хоць бачыў, што ўлады буржуазнай Польшчы, расправіўшыся з БСРГ, завастрылі палітыку нацыянальнага ўціску, закрылі нават чыста культурныя беларускія арганізацыі. На жаль, уладам прынёс карысць і неапраўданы роспуск КПЗБ Камінтэрнам ва ўгоду хваравітай падазронасці Сталіна.

А. Луцкевіч, на жаль, не знайшоў сабе месца ў антыфашысцкім народнафрантавым руху другой паловы 30-х гадоў, не вярнуўся да класічнай формулы беларускага адраджэння, якую сам на заранку дзейнасці прапаведаваў і вобразна называў спалучэннем хлеба і свабоды, дэмакратыі з патрыятызмам, класавага з нацыянальным.

Калі прыняць крытэрый ацэнкі, якую прапануе А. Сідарэвіч, дык атрымліваецца неўразумеласць: А. Навіна не ішоў на кантакты з народным фронтам (дакладней сказаць, яго не запрашалі, бо ведалі пазіцыю і не хацелі мець справу з ім), але ён быў марксістам-ленінцам, а Шырма, Стацкевіч, Танк, Васілёк, якія стваралі народнафрантавую думку, выходзіць, былі сталіністамі (?). Ці сэнсоўна весці маральную рэабілітацыю пад прыкрыццём юрыдычнай рэабілітацыі? Калі нам дарага добрае імя рэспублікі, мы павінны ўсё зрабіць, каб вярнуць не толькі грамадзянскія правы А. Луцкевічу, але і вярнуць да жыцця **лепшыя творы** яго на спажытак народу. Яны пісаліся для абуджэння сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці народа. Няхай сам народ прачытае і ацэніць іх. Справа гонару кіраўніцтва рэспублікі даць мажлівасць пасмяротнага духоўнага самаапраўдання Антону Луцкевічу шляхам публікацыі яго апошняга пакутнага твора — споведзі, напісанай у 1939—40 гг. Дакумент гэты пасля XX з'езда работнікі абноўленых органаў КПБ паказвалі пісьменнікам. На шчасце, ніхто з аўтарытэтных мастакоў слова не ўзяўся каменціраваць гэты твор у пракурорскім плане.

Шлях А. Луцкевіча як палітыка і грамадскага дзеяча поўны супярэчнасцей, месцамі незразумелы, ён патрабуе грунтоўнага вывучэння і асэнсавання. Я гаварыў на сустрэчы за «круглым сталом», што не ў стане зразумець, як мог такі папулярны дзеяч адрачыся ад Грамады, пайсці супраць дэмакратаў і камуністаў. А потым як ні ў чым не бывала вітаць на Лукішскім пляцы ў верасні 1939 года Чырвоную Армію. Легкадумствам было дзеячу з такімі зігзагамі ў палітычнай біяграфіі заставацца ў Вільні. Луцкевіч нібыта сам напрошваўся на прыкрасці, што, вядома, не змяншае віны за прымяненне да яго рэпрэсій, беззаконнасці.

Тут насоўваецца версія адказу на пытанне, якое ставіць А. Бергман: чаму А. Луцкевіч не выехаў за мяжу ў верасні-кастрычніку 1939 г.? Супакоіла яго тое запрашэнне да супрацоўніцтва, а можа, і дыстанцыя, з якою паставіліся арганізатары часовай улады да былых членаў распушчанай КПЗБ, аддаючы сімпатыі тым інтэлігентам, што раней не займаліся палітыкай? Па гэтай прычыне ў Народны сход трапіў М. Машара і не трапіў больш палітычна акрэслены Максім Танк.

Думаю, не многа даб'ецца той навуковец, які захопіцца толькі спачуваннем і стане выпрамляць супярэчлівую біяграфію дзеяча, таксама як і той, хто, паддаўшыся зларадасці, пачне яе дэманізаваць, ачарняць. Першае ў маім разуменні асабліва не патрэбна А. Луцкевічу, бо яно будзе правакаваць другое і даваць спажыву чорнай міфатворчасці. Супакаенне сумленню прыносіць толькі ісціна, сумленная памяць, нават калі яна вымушана быць суровай і выдасца няўдзячнай. Сумленная памяць і ёсць настаўніца жыцця.

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# «І МАЕМ, ШТО МАЕМ»

**Пад такім загалоўкам былі змешчаны ў «ЛіМе» за 5 мая г. г. нататкі Аляксея Карпюка, дзе рабілася спроба абмаляваць норавы, якія, на думку аўтара, назіраліся ў 70-я гады сярод часткі партыйнага і савецкага апарату Гродзеншчыны. Нататкі друкаваліся пад рубрыкай «З пісьменніцкага блакнота», і гэтым рэдакцыя давала знаць, што не разглядае іх як аналітычнае, грунтоўнае даследаванне важнай тэмы.**

**Публікацыя выклікала пратэст з боку былога першага сакратара Гродзенскага абкома партыі І. Ф. Мікуловіча і былога першага намесніка старшыні аблвыканкома Я. А. Арэхава. Было некалькі гутарак з імі ў рэдакцыі. Выказала ў рэдакцыі сваё абурэнне дачка апошняга, С. Я. Арэхава, якая жыве ў Мінску, прыслалі пісьмо з Гродна дачка і зяць Мікуловіча — Л. І. і М. А. Нічыпарэнкі. Рэдакцыя аказалася ў даволі цяжкай сітуацыі. Справа ў тым, што ўдзельнікі апісаных А. Карпюком падзей не проста «абвяргаюць», як гэта часта бывае ў падобных выпадках, а пратэстуюць з фактамі і дакументамі ў руках, аспрэчваюць па сутнасці, па прынцыповым рахунку. Напрыклад, абвінавачанне ў непісьменнасці І. Мікуловіч і Я. Арэхаў абвяргаюць тым, што прад'явілі па два дыпломы аб сканчэнні вышэйшых навучальных устаноў. Рашуча аспрэчваюць яны таксама момант з абаронай дысертацый. «А. Карпюк папракае мяне ў тым, што я абараняў дысертацыю нібыта для «жыццёвага камфорту», — піша ў сваім пісьме ў рэдакцыю Іван Фёдаравіч Мікуловіч. — На самай справе гэта выклікалася неабходнасцю даказаць, што далей так гаспадарыць нельга. У дысертацыі былі тэарэтычна распрацаваны пацверджаныя ўжо нашай практыкай новыя формы арганізацыі працы, заснаваныя на ліквідацыі абязлічкі ў выкарыстанні зямлі і тэхнікі з аплатай працы па канчатковаму выніку, мной даказвалася эфектыўнасць спецыялізацыі сельскай гаспадаркі... Набяруся смеласці сказаць, што калі б гродзенскаму прыкладу, які я абагульняў у дысертацыі, паследавалі другія, то наўрад ці была б патрэба закупляць хлеб і іншыя прадукты за мяжой. Бо там, побач з эканамічнымі мерамі, асвятляліся і псіхалагічныя, маральныя і другія аспекты праблемы, г. зн. тое, за што зараз вядзе барацьбу партыя. Дысертацыя была прадыктавана жыццём і напісана асабіста мной, без чыёй-небудзь паслугі». «Дазвольце ўдакладніць, — пішуць са свайго боку Л. і М. Нічыпарэнкі. — І. Ф. Мікуловіч закончыў Мінскі педагагічны інстытут, а ў 1958 годзе — ВПШ пры ЦК КПСС з адзнакай, там жа здаў экзамены па кандыдацкаму мінімуму. Так што не меў патрэбы ў здачы экзаменаў за сярэднюю школу, так маляўніча апісаных А. Карпюком. А дысертацыю І. Ф. Мікуловіч сапраўды абараніў. Абарона праходзіла ў Маскве. І дысертацыя была прысвечана перавагам арэндных прынцыпаў вядзення сельскай гаспадаркі на прыкладзе многіх гаспадарак Гродзенскай вобласці...»**

**«Я таксама катэгарычна пратэстую супраць сцвярджэння А. Карпюка, што дысертацыю мне нехта дапамагаў пісаць, — заявіў Я. А. Арэхаў. — Мне пры маёй тагачаснай пасадзе наогул не належала мець памочніка. Магу яшчэ дадаць, што тэма дысертацыі — «Эфектыўнасць спецыялізацыі жывёлагадоўлі на прыкладзе калгасаў і саўгасаў Гродзенскай вобласці» — вельмі складаная і мала хто ведаў гэты прадмет».**

**Наконт вяселля. Яно, як сведчаць І. Ф. Мікуловіч, Я. А. Арэхаў і Нічыпарэнкі, праводзілася не зімой, а летам, не было патрэбы прывозіць аднекуль самалётам клубніку, не было ніякай аховы, не было ўручэння ключа маладым, усе выдаткі аплачваліся за кошт бацькоў нявесты і жаніха і г. д. «Аўтар артыкула на вяселлі не быў, а пераказ падзей з дзесятых вуснаў — справа не ўдзячная», — пішуць дачка і зяць І. Ф. Мікуловіча. З гэтым, бадай, трэба пагадзіцца.**

**Мы гутарылі таксама і з Аляксеем Нічыпаравічам Карпюком. Ён прызнаў, што не можа ручацца за дакладнасць усіх сваіх сцвярджэнняў.**

**Інакш кажучы, газета змясціла неправераныя належным чынам матэрыял і просіць за гэта прабачэння ў І. Ф. Мікуловіча і Я. А. Арэхава.**

*Старонкі ўспамінаў*

Барыс САЧАНКА

# ШТРЫХІ

## Ён любіў Беларусь

Калі восенню 1960 года перайшоў я з «Вожыка» на працу ў аддзел прозы часопіса «Полымя», то першы твор, які мне трэба было прачытаць і падпісаць да друку, была аповесць Уладзіміра Караткевіча «Раман Ракута» (яна мела падназву «Сівая легенда»). Уладзімір Караткевіч празаік?.. Гэта было новае, нечаканае. Дасюль я, ды і ўсе, ведалі Уладзіміра Караткевіча як паэта. Паэта самабытнага, што не ўвайшоў, а як бы ўварваўся ў беларускую літаратуру і адразу ж заняў у ёй сваё месца. Яго вершы карысталіся вялікім поспехам, былі папулярны сярод моладзі, часта цытаваліся, дэкламаваліся, асабліва такія, як «Заяц варыць піва», «Паўлюк Багрым», «Балада пра паўстанца Ваўкалаку», «Машэка»... Многім была вядома і «аршанская гісторыя», калі паэта ратавалі ад надзеленага ўладай дурня — кіраўніка раённага маштабу, што завёў на паэта «справу». Давялося пабываць у Оршы, дзе жыў і працаваў Уладзімір Караткевіч, а потым і выступіць у газеце «Звязда» з артыкулам у яго абарону Пятру Глебку. І раптам... Уладзімір Караткевіч — празаік. Цікава...

Аповесць «Раман Ракута» («Сівая легенда») невялікая, і я прачытаў яе ў адзін дых у той жа першы дзень сваёй працы ў «Полымі». Не скажу, каб яна вельмі мяне ўразіла. Адчуваўся ўплыў К. Ф. Мейера, В. Раабэ, іншых пісьменнікаў, што пісалі творы на так званую «гістарычную тэму». Але разам з тым у аповесці было і сваё, тое, чаго так не хапала беларускай літаратуры — мінулае народа, яго гісторыя. А яна, гэтая гісторыя, не маленькая, налічвае некалькі стагоддзяў. І такая незвычайная, драматычная, што аж дух займае. Ёсць поле для разгарнення сапраўднага таленту. Далёкія ад Беларусі людзі, і то гісторыяй нашага народа захапляліся. Ды і пісалі на матэрыяле мінулага Беларусі свае творы. А. Пушкін, М. Лермантаў, Г. Сянкевіч, напрыклад. Нам, беларусам, як кажуць, і бог вялеў. Таму я з радасцю падпісаў аповесць у друк, аддаў для далейшага чытання начальству. Неўзабаве прыехаў у Мінск з Масквы, дзе вучыўся, і сам Уладзімір Караткевіч, завітаў у «Полымя». Высокі, танклявы, у блакітнаватым касцюме, з універсітэцкім ромбікам на лацкане пінжака... І вельмі ж, як здалося мне, бесклапотны, вясёлы. Як толькі што — смяецца. Нават не смяецца — рагоча. Рагоча весела, па-руску кажучы, «заразительно». Аж водгалас ідзе па калідоры. Уладзімір Караткевіч, выявілася, прывёз у «Полымя» новую празаічную рэч. Гэты раз раман. І назва яго была «Леаніды не вернуцца да зямлі».

Так здарылася, што ў аддзеле прозы тады працаваў я адзін. І лёс рамана Уладзіміра Караткевіча давялося на першым этапе вырашаць мне. Вядома, вырашыў гэты лёс я, як і належыць, станоўча — падрыхтаваў раман да друку, хоць, калі шчыра прызнацца, не ўсё, далёка не ўсё мне ў ім падабалася. Выдатна, свежа быў напісаны пралог. Што ж да астатняга... Зноў жа, зашмат было перайманія. І Кнута Гамсуна, і Эрнеста Хемінгуэя, ды і іншых пісьменнікаў. І я сказаў шчыра пра ўсё, што думаў, пры сустрэчы Уладзіміру Караткевічу. З сім-тым Уладзімір Сямёнавіч згадзіўся, з сім-тым не. (У мяне захавалася перапіска тых гадоў, і калі-небудзь, можа, чытачы змогуць пазнаёміцца з лістамі, што пісаў мне пісьменнік з гэтага выпадку). Раман быў здадзены ў набор, праўда, пад новаю назваю — «Нельга забыць». Частка яго з'явілася на старонках часопіса ў такім выглядзе, як мы разам з аўтарам падрыхтавалі. Прыйшла карэктура наступнага нумара. Дзяжурным па ім быў супрацоўнік, які чамусьці недалюбліваў Уладзіміра Сямёнавіча. Ён убачыў у рамане паэмы, якія раней бракаваліся ў тым жа самым «Полымі». Усумніўся ён і ў самім рамане, у канцэпцыі аўтара... І раман, каб неяк закончыць, давялося тэрмінова, у карэктуры скарачаць, што называецца, па жываму. Ад другой часткі асталіся, як кажуць, рожкі ды ножкі. (Потым, як вядома, гэты раман праляжаў дваццаць гадоў, перш чым пабачыў свет асобнаю кнігаю).

Даволі драматычна складвалася гісторыя з надрукаваннем і самага лепшага рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім». Па-першае, раман быў доўгі, каля паўтары тысячы старонак машынапісу. Па-другое, напісаны не ўсюды роўна. Да таго ж, раман быў прысвечаны мінуламу, хоць і не вельмі далёкаму. А тады ад «Полымя» патрабавалі сучаснасці, і толькі сучаснасці. І зразумець, што гэта фактычна першы гістарычны раман у беларускай літаратуры, не ўсе хацелі. Нават некаторыя члены рэдкалегіі. Але ў рэдакцыі быў настрой раман надрукаваць. І яго надрукавалі, хоць і значна скараціўшы. Сам пісьменнік жыў быццам ва ўяўным свеце, амаль не лічыўся з заўвагамі рэдакцыі. На кожную заўвагу пісаў доўгія-доўгія адказы. (Варта было б падняць архіў і змясціць гэтыя адказы на заўвагі хоць бы ў каментарыях да збору твораў. Гэта надта б узбагаціла раман, паказала б Уладзіміра Караткевіча з іншага боку — палеміста, добрага знаўцу айчыннай гісторыі). Яшчэ больш Уладзіміру Сямёнавічу не пашанцавала ў выдавецтве, куды ён здаў рукапіс рамана. І хоць была там станоўчая рэцэнзія (аж на 60 старонак!) Максіма Лужаніна, раман марынавалі, не хацелі выдаваць. Умяшаўся Саюз пісьменнікаў, наладзіўшы шматгадзіннае абмеркаванне, на якім выступілі многія. Вядома, праціўнікаў рамана было менш, чым абаронцаў, прыхільнікаў. І выдавецтва змушана было прыслухацца да думкі большасці — раман пабачыў свет, быў перакладзены на рускую мову і перавыдадзены ў Маскве. Ён, гэты раман, і прынёс Уладзіміру Караткевічу славу як празаіку...

Добрыя, таварыскія адносіны з Уладзімірам Караткевічам былі ў многіх. І грунтаваліся яны перш за ўсё на тым, што Уладзімір Караткевіч вельмі любіў Беларусь, хацеў зрабіць усё дзеля развіцця, славы роднай старонкі, свайго народа. І ён цаніў, паважаў усіх, хто быў яму сябрам па духу, паплечнікам у хадзе наперад. Неаднойчы бываў ён у мяне дома, гасцяваў і я неаднойчы ў яго, асабліва на той кватэры, дзе ён халасцякаваў на вуліцы Чарнышэўскага. Неяк ён, ужо ажаніўшыся, пазваніў мне — ці не магу я пазычыць яму некалькі сот рублёў. Уладзімір Сямёнавіч прыехаў па грошы на таксі і з вялізным букетам кветак, чым вельмі ж расчуліў маю жонку. І надта ж хораша спяваў песні, калі мы сядзелі за сталом...

У характары Уладзіміра Караткевіча было многа наіўнадураслівага, як бы дзяцінага. І гэта асабліва адчувалася, калі ён пачынаў што-небудзь расказваць са свайго жыцця. Паверыць у праўдзівасць таго ці іншага выпадку ці гісторыі было амаль немагчыма — такія яны былі часам малаверагодныя. А між тым, як потым выяўлялася, расказваў ён чыстую праўду. Шкада, што многае з таго, што ім перажылося, ён не паспеў апісаць, напрыклад, паляванне на мядзведзяў у Сібіры, куды знарок дзеля гэтага ездзіў, сваё рыбацтва на Дняпры і на іншых рэках Беларусі, свае вандроўкі па гарадах і вёсках роднага краю, паездкі ў Польшчу і Чэхаславакію. Дасюль у мяне ў вушах яго аповяд, як у Маскве, калі ішоў па вуліцы з сябрамі, на яго былі напалі невядомыя і ён, стаўшы спіною да сцяны дома, абараняўся, як мог, рукамі і нагамі, а сябры, тыя, хто павінен быў кінуцца яму на дапамогу, стаялі збоку, глядзелі на яго і ўмаўлялі: «Вовка, не ввязывайся!»

Уладзімір Сямёнавіч лічыў сябе ледзь не адзіным у беларускай літаратуры патомным інтэлігентам, быў як рэдка хто дасведчаны і начытаны, часта ў гутарках любіў параўноўваць пісьменнікаў прыкладна так: гэты піша ў стылі Андрэ Жыда ці Анры дэ Рэнье, а гэты — у стылі Брэйгеля-малодшага ці Брэйгеля-старэйшага. Любіў ён надта ўсё жывое — птушак, катоў, сабак. Калі на кінастудыю «Беларусьфільм» на здымкі чарговай кінастужкі прывезлі мядзведзя, ён забраў касалапага мішку да сябе дахаты, карміў яго мёдам, цукеркамі, гуляў з ім па вуліцах горада, прыходзіў нават у «Полымя», і аж рагатаў, расказваючы, як купаў мядзведзя ў ванне і той млеў, зажмурваў вочы ад «насалоды»... Дарэчы, Кіеў, Украіна, дзе вучыўся і працаваў, далі яму многае, у тым ліку і некаторыя словы, якія ён ужываў у сваіх творах і якія сёй-той з маладых лічыць сёння за старабеларускія...

Аднойчы, прыехаўшы з Масквы, ён прывёз «талісман шчасця» — загорнутую ў хусцінку руку егіпецкай муміі. Але, пажыўшы з гэтай рукою нейкі час, аж пахудзеў бедалага — як прызнаваўся потым, не мог спаць і нават знаходзіцца ў сваёй кватэры — яму здавалася, што рука жывая, што яна чагосьці шукае, а па начах свеціцца і нават стукае па стале пальцамі. Гэтую руку ён прапаноўваў многім, але яе так ніхто і не ўзяў. Давялося вярнуць ранейшаму ўладальніку — завезці зноў у Маскву...

«Гульня», «розыгрыш» былі ў натуры Уладзіміра Сямёнавіча. Гэта ведалі яго сябры. Іншы раз ён разыгрываў цэлыя сцэны, кім толькі сябе ні выстаўляючы. Крыўдаваць на яго проста было немагчыма, бо ў яго жартах не было і намёку на знявагу — такія яны былі непасрэдныя і добразычлівыя. Аднак знайшліся людзі, якія з адной з яго чарговых гульняў ледзь не зрабілі яшчэ адной «справы»... Давялося ратаваць пісьменніка — і Максіму Танку, і Максіму Лужаніну, і ўсім астатнім, хто яго добра ведаў...

...Апошнія гады свайго жыцця Уладзімір Сямёнавіч жыў даволі замкнута. Рэдка бываў у Саюзе пісьменнікаў, рэдка хадзіў па рэдакцыях. На яго галаву звальваліся адна за адной беды — памерла маці, памерла жонка... Не так часта, як хацелася б, мы і сустракаліся з ім. Да таго ж, завяліся сярод яго новых «сяброў» тыя, хто імкнуўся пасварыць яго з ранейшымі сябрамі. Да гонару самога Уладзіміра Сямёнавіча ён на гэта не ішоў. Ён да канца свайго жыцця, не ў прыклад некаторым іншым, удзячны быў за падтрымку і ў друкаванні сваіх твораў, і ў астатнім, надзённым, жыццёвым усім, хто гэта шчыра, ад сэрца рабіў...

...Смерць Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча — Валодзі Караткевіча, як усе мы яго звалі, — застала мяне ў Кактэбелі, які ён любіў і куды не раз ездзіў адпачываць, працаваць. Помню, пазваніў я раніцою ў Мінск дачцэ і пачуў сумную вестку. Пагасла сонца, пацямнеў светлы летні дзень. Убачыўшы знаёмага літаратара з Масквы, я сказаў, прызнаўся, што ў нас у Беларусі вялікае гора — памёр Уладзімір Караткевіч...

— Гэта гора не толькі ў вас, а ва ўсіх нас, ва ўсёй савецкай літаратуры, — ледзь не ўсхліпнуў маскоўскі літаратар. І скінуў з галавы шапку, застыў у маўчанні...

Так мы развіталіся з тым, каго любілі, на каго вельмі ж спадзяваліся, каму ўдзячны былі і за творы і за тыя хвіліны «общения», што падаравала нам жыццё...

## Сеня... Сямён... Сымон Блатун...

Упершыню мы сустрэліся з ім у Хойніках, у рэдакцыі раённай газеты. Ён, хоць і маладзейшы за мяне, — студэнт другога курса універсітэта, я — выпускнік сярэдняй школы. І было гэта ўлетку далёкага ўжо 1955 года. Вельмі сціплы, сарамяжлівы, ён, як навічок-практыкант, адчуваў сябе быццам ніякавата. І руку падаваў, знаёмячыся, як школьнік, — нясмела.

— Сеня... Сямён... Сымон Блатун...

Потым мы сустракаліся ў Мінску. У студэнцкім інтэрнаце, на пасяджэннях літаратурных аб'яднанняў, у рэдакцыях газет і часопісаў і проста на вуліцы. Было многа-многа сустрэч і многа-многа размоў. Самых розных. Мы ж з ім, апрача ўсяго іншага, былі яшчэ і землякі: ён з Брагінскага раёна, я — з суседняга, Хойніцкага. Да таго ж, маладыя, кожны з нас шукаў сваё месца ў жыцці, церабіў дарогу ў літаратуру. І нам заўсёды было пра што пагаварыць. Бо пры ўсім падабенстве, якое безумоўна было ва ўсіх нас, прадстаўнікоў таго галоднага пасляваеннага так званага «філалагічнага пакалення», было ў кожнага з нас і сваё, індывідуальнае, уласцівае таму ці іншаму і ані не ўласцівае астатнім. Рыгор Барадулін, Юрась Свірка, Генадзь Бураўкін, Янка Сіпакоў ды і я выдалі першыя свае кнігі, будучы яшчэ студэнтамі, а ён, Сымон Блатун, не горшы за нас ні па таленце, ні па творчасці, ніяк не мог сабраць і выдаць тую першую сваю кнігу. Выйшла яна толькі ў 1968 годзе, праз дзевяць гадоў пасля заканчэння універсітэта і за два гады да смерці. Такой ранняй і такой недарэчнай...

Другая яго кніга «Радаслоўнае дрэва» была здадзена ў набор 30 сакавіка 1970 года, а 3 красавіка таго ж года яго ўжо не было жывога...

Цяжка хаваць чалавека ў няпоўныя трыццаць тры гады. Яшчэ цяжэй хаваць сябра, паэта, талент якога толькі-толькі пачынаў раскрывацца, набіраць лёту і сілы...

У той другой і апошняй кнізе паэзіі Сымона Блатуна ёсць верш, які кожны з нас, яго сяброў, прачытаў з асаблівым шчымлівым болем:

**І скажуць: «Быў яшчэ ж ён**
**малады...»**
**Паўстану я ў кагосьці прад**
**вачыма.**

**Зязюлямі падлічаць мне гады**
**Суцішана трывожныя жанчыны.**

**І скажуць так: «Ляжаў ён, як жывы...» —**
**Упершыню спагадліва і шчыра.**
**Цішэй в .ды, ніжэй травы...**
**Бывайце, гоні, рэчкі, паплавы,—**
**Я адлятаю ў свой далёкі вырай.**

Выходзіць — прадчуваў сваю хуткую смерць паэт. І намаляваў усё так, як потым і было...

...Тады, у гады нашай маладосці, калі я працаваў у «Вожыку», а Сымон Блатун у газеце «Звязда», ля Дома друку ў Мінску непадалёку ад Ленінскага праспекта на вуліцы Хмяльніцкага адна-адзінюткая сярод камяніц сіратліва стаяла невялікая драўляная хата. І кожны раз, праходзячы міма гэтае хаты, я кідаў на яе спасцярожлівы, як бы палахлівы позірк — нібыта ведаў, здагадваўся, што там, у гэтай хаце, робіцца нешта не зусім ладнае. Неяк рэдакцыя даручыла мне напісаць рэпартаж-фельетон пра начны Мінск — тое, чым жыве горад у той час, калі ўсе добрыя, звычайныя людзі адпачываюць — спяць. Я звязаўся з гарадскім аддзяленнем міліцыі і мяне ўсю ноч вазілі... О, дзе толькі я ні пабываў, з кім ні сустракаўся, з кім ні размаўляў — і са злодзеямі, якіх злавілі на кражы, і з алкаголікамі, і з прастытуткамі, і... Пад самую раніцу, зусім зморанага, мяне прывезлі на вуліцу Хмяльніцкага ў тую драўляную хату, міма якой я праходзіў штодзень, кіруючыся на працу і з працы. Я пераступіў парог і, божа, што ўбачыў... На падлозе, даўно нямытай і непадмятанай, ляжалі ўпокат у самых неверагодных позах напаўраздзетыя і зусім голыя мужчыны, жанчыны... Маладыя, пажылыя і зусім старыя...

— Што гэта? — спытаў я са страхам.

— Гэта наркаманы... — адказалі мне. — Яны збіраюцца сюды адусюль, нават прыязджаюць з іншых гарадоў...

— Чаму іх не забірае міліцыя, чаму не лечаць? — задаваў я наіўныя пытанні, бо і не ведаў, не ўяўляў, што гэта такое наркаманія — тады ж пра яе не гаварылі, не пісалі.

З хаты я выходзіў у жахлівым настроі. Яшчэ і таму, што ў адной з наркаманак-жанчын пазнаў сяброўку гаспадыні, у якой толькі што наняў кватэру і пасяліўся, каб жыць. Сяброўка маёй гаспадыні жанчына-наркаманка, як выявілася, і была ўладальніцай хаты на вуліцы Хмяльніцкага. У гэтай жанчыны-наркаманкі была прыгажуня дачка, якая сябравала з дачкою маёй гаспадыні...

Аднойчы дачка маёй гаспадыні зайшла да мяне ў пакой і спытала, ці ёсць такі паэт — Сымон Блатун.

— Ёсць, — нічога не разумеючы, адказаў я.

— І добры паэт?

— Вельмі добры!

Дачка засмяялася і пайшла.

А яшчэ дзён праз колькі я даведаўся, што Сымон Блатун закахаўся ў дачку-прыгажуню наркаманкі. А потым, неўзабаве, і жаніўся, у іх нарадзіўся сын...

Ды шчасця ў новай сям'і не было — маці-наркаманка ўцягнула ў наркаманію і сваю дачку...

Як ні шчыраваў, як ні змагаўся Сымон Блатун, каб выратаваць жонку, яму гэта не ўдалося. Ад гора, адчаю запіў... Скончылася ўсё больш чым сумна — аднаго разу, калі вяртаўся позна дадому, яго прыпільнавалі знаёмыя цешчы і жонкі — наркаманы і, думаючы, што ён нясе грошы, нечым цяжкім і цвёрдым стукнулі па галаве...

Замест рэцэнзій на яго вершы мы, сябры Сымона Блатуна, пісалі некралог.

Асталіся Сымонавы вершы — лірыка, гумар, пераклады. Яны, гэтыя вершы, найбольш поўна сабраныя і выдадзеныя ў 1974 годзе, даюць падставу меркаваць, які шчыры, светлы і непаўторны гэта быў талент і як многа ён мог зрабіць, даць нашай літаратуры...

...Сеня... Сямён... Сымон Блатун...

*Пошукі, знаходкі*

# «Тарас на Парнасе» ў Кракаве

**Да 100-годдзя першай публікацыі паэмы**

У загалоўку я назваў твор поўным «імем», каб адразу выклікаць у памяці чытачоў гарэзлівае, неўміручае, нашае:

**Ці знаў хто з вас, братні, Тараса,**
**Што палясоўшчыкам служыў?..**

Хоць у тых спісах, пра якія пойдзе размова, а таксама ў першай публікацыі («Минский листок», 16/28 мая 1889 г.) назва карацейшая, «няпоўная», а таму нязвыклая, і чытацкі стэрэатып не адрэагуе на загаловак «Тарас». Як не адрэагаваў адразу на яго і я, калі ўпершыню, прабягаючы стомленымі вачыма чарговую пазіцыю ў чарговым томе каталогаў рукапісаў, якія захоўваюцца ў зборах ПНР, на імгненне затрымаўся: «Акіньчыц Аляксандр, верш «Тарас», чарнавік, лл. 54 — 59; на л. 59 адв. заўвага невядомай рукой: Poesies Ruteniennes composées par Dr. Alexandre Ok.». Не валодаючы французскай мовай, тым не менш зразумеў: «Русінская паэзія, складзеная доктарам Аляксандрам Ак.»...

Падумалася: «Зноў штосьці з украінскім каларытам ці нават на ўкраінскай мове напісанае; шэсць лістоў, цэлых дванаццаць старонак! І не, каб хоць які вершык на мове Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча...» Між тым чытаў (па-польску) тлумачэнне далей: «...а таксама чыставік, лл. 60 — 69; назва «Тарас»; напісаны вучнем Агранамічнай школы ў Корыгорках (Koryhorkach) Магілёўскай губерні ў 1854 г.; у склад чыставіка не ўвайшлі ўсе строфы чарнавіка».

Марудна, паволі (ці так падалося?) прыходзіла разуменне: дык гэта ж... Корыгоркі— Горы-Горкі!.. А там напісаны «Тарас на Парнасе»... Так!

На жаль, зразумелае цяпер чытачу пачуццё я перажыў не ў горадзе Францішка Скарыны і Алеся Гаруна (у Кракаве, на Ракавецкіх могілках спачывае аўтар «Матчынага дара», і магілу яго, яшчэ без помніка, з простым бярозавым крыжам на ёй пакажа мне пазней Алег Латышонак), а ў Мінску, у аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, укамплектаванай (праўда, не поўна) даведнікамі рукапісных збораў савецкіх і замежных архіўных сховішчаў. На жаль, а можа, і на шчасце — хто ведае? — бо ў той кругаверці, у якую я акунуўся праз тры дні, прапусціць нейкія два радкі ў друкаваным даведніку — рэч элементарная.

Праўда, у душы (відаць, ад набытага гадамі сярод архіўнай цішы пачуцця «самазахавання», каб услед за радасцю «адкрыцця» не глытаць горыч расчараванняў) заставалася глыбокае сумненне: калі гэта рукапіс славутага «Тараса на Парнасе», ды яшчэ з чарнавіком, дык пры чым тут Аляксандр Акіньчыц? Яшчэ 10 гадоў таму ў кніжцы «Пошукі імя» Генадзь Кісялёў выказаў шэраг доказаў на карысць Канстанціна Вераніцына як найбольш верагоднага аўтара паэмы.

Так і падаўся я вясною 1988 года ў вандроўку па архівах Варшавы — Вроцлава — Кракава, не адважыўшыся раскрыць перад Генадзем Кісялёвым «запланаваную» знаходку, адно асцярожна папытаўся пра мажлівасць існавання рукапісных спісаў паэмы «Тарас на Парнасе» ў Польшчы. «Верагодней знайсці іх на сібірскіх абшарах, дзе пабывала столькі беларусаў, чым на Захадзе», — сказаў Генадзь Васільевіч.

Аўтар «Загадкі беларускай «Энеіды» (дакладней, яе разгадкі) у пэўнай ступені меў рацыю, таму што кракаўскія спісы легендарнай паэмы звязаны з беларусам, які адведаў сібірскіх маразоў, асобай неардынарнай, пра што сведчыць яговая біяграфія на старонках даведніка «Polski Słownik Biograficzny».

Аляксандр Акіньчыц (Акеньчыц) нарадзіўся 9 лютага 1839 года ў вёсцы Сялец Пружанскага павета (паводле парыжскай кнігі на атрыманне дыпломаў дактароў медыцыны, 28 жніўня ў Гродне). Вучыўся ў Пружанах, потым у Гародні, у 1851 — 1856 гадах на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта, пасля заканчэння якога распачаў лекарскую практыку ў мястэчку Шарашова на Пружаншчыне, дзе і заспела маладога медыка нацыянальна-вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Карнікі схапілі Акіньчыца пад час аказання медыцынскай дапамогі параненым паўстанцам. За вернасць клятве Гіпакрата ён атрымаў 12 гадоў катаргі. На этапе, паміж Табольскам і Томскам, Акіньчыц разам з Зыгмантам Мінейкам (у будучым ганаровы грамадзянін Грэцыі, аўтар цікавых успамінаў «З тайгі пад Акропаль») і Гэнрыкам Вашкевічам «падшыліся» пад прозвішчы памерлых ад тыфусу ссыльных, і замест нерчынскіх руднікоў «тры літвіны» аселі ў Томску. Праз нейкі час параходам дабраліся да Казані, адтуль цягніком у Маскву і Пецярбург, дзе іх чакалі рускія рэвалюцыянеры. У жніўні 1865 года Акіньчыц з'явіўся ў Парыжы, стаў адным з актывістаў Камітэта згуртавання польскай эміграцыі. 26 красавіка 1871 года ўзяў шлюб з дачкой выдатнага польскага паэта-рамантыка Юзафа Багдана Залескага...

Цяпер можна растлумачыць, чаму ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве спісы паэмы захаваліся сярод аўтографаў са спадчыны Ю. Залескага. А вось пра акалічнасці іх узнікнення даводзіцца адно здагадвацца. Відаць, яны былі напісаны ў 1882 г., калі адзначалася 80-годдзе з дня нараджэння паэта. На гэты юбілей адгукнуліся ўсе прыхільнікі таленту апошняга, бадай, польскага паэта-рамантыка: прыйшлі віншаванні з Украіны, Польшчы, Францыі, Германіі, Англіі, Швейцарыі, ЗША. Падала свой голас і Беларусь вуснамі «чырвонага графа» Вайніслава Савіча-Заблоцкага («писателя польского, русского, французского и немецкого», як гаварыў ён пра сябе ў аўтабіяграфіі). Верш паэта «Беларуская пея» (песня) быў выяўлены мною ў фондзе Залескага разам са спісамі паэмы:

**Гэй, Баяне Вукраінскій! Гутарку Табе**
**Я сказаў бы, беларусін, штобы была мілай,**
**Толька ў нашай хаце сядзіць у куце**
**Масналіска тугый з чорнай сваёй сілай...**

Былы зяць Юзафа Багдана Залескага (з першай жонкай Аляксандр пражыў усяго 2 гады: яна памерла ад сухотаў), апякуючыся амаль сасляплым старым, узнавіў у памяці (магчыма, калектыўна, з дапамогай землякоў) жамчужыну беларускай паэзіі мінулага стагоддзя. На думку, што тэкст узнаўляўся па памяці, схіляе «чарнавы варыянт» паэмы з перастаноўкай і пропускам паасобных строф. Не ўсе яны ўзноўлены і ў чыставіку; дакладна ведаючы, дзе і якога памеру страты, «складальнік» адзначыў іх белымі плямамі пропускаў.

Параўноўваючы з кананічным тэкстам паэмы ў 305 радкоў (гл., напрыклад, даследаванне І. Баса «Друкаваныя і рукапісныя варыянты паэмы «Тарас на Парнасе»), я не далічыўся 25 радкоў. Затое ў кракаўскіх спісах ёсць два чатырохрадкоўі, якія да апошняга часу не былі вядомыя беларускім літаратуразнаўцам, пакуль не адшукаліся копіі з матэрыялаў, сабраных Аляксандрам Рыпінскім (больш падрабязней гл. у кнізе Генадзя Кісялёва «Разыскивается классик...»). Найбольш каларытнае з чатырохрадкоўяў:

**Вось нехта сеўшы ў Тарантасе,**
**На горку цягнецца трушком:**
**Знаць, любюць тых і на парнасе**
**хто езьдзіць конна, а не пяшком...**

суправаджае каментарый, які адсутнічае і ў адшуканых копіях тэкстаў з сшыткаў Рыпінскага; насупраць слова «Тарантас» пазначана зноска, а ў падрадкоўі тлумачыцца: «**Салагубаў** — аўтар перыядычнага выдання ў Расіі пад назвай «Тарантас» — сярэдняй вартасці. Багаты гэты чалавек, які, здаецца, грашмі схіляў да сябе меркаванні прадажных крытыкаў».

Радасна ўсведамляць, што 100-годдзе з дня першай публікацыі славутага твора, які да апошняга часу лічыўся ананімным, сустрэта высвятленнем імя найбольш верагоднага аўтара паэмы «Тарас» — Канстанціна Вераніцына, — плён даследчыцкіх намаганняў Генадзя Кісялёва на працягу дзесяцігоддзяў. Знойдзеныя ж у Кракаве рукапісы — найбольш раннія па часе ўзнікнення спісы знакамітага твора.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

## НА СУМЕСНЫМ ПАСЯДЖЭННІ

**З дзвюма датамі — днём славянскай пісьменнасці і 72-годдзем з дня смерці Максіма Багдановіча — супала сумеснае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і секцыі крытыкі СП БССР. Памяць паэта-класіка была ўшанавана мінутай маўчання.**

**На пасяджэнні абмяркоўвалася творчасць В. Куляшовай і А. Траяноўскага з мэтай рэкамендацыі іх у члены Саюза пісьменнікаў. Выступілі В. Нікіфаровіч, У. Аніскові ч, Д. Бугаёў, У. Жыжэнка, Я. Лецка, М. Татур, Н. Пашкевіч, А. Ліс, У. Ягоўдзік і інш.**

**Па пытанні «Мастацкі пераклад у сістэме беларуска-іншаславянскіх сувязей» вядучы пасяджэння К. Шэрман прадаставіў слова А. Яскевічу. Прамоўца зазначыў, у прыватнасці, што ў аснове мастацкага перакладу ляжыць тыпалогія, якая, на жаль, у нашай рэспубліцы вымагае значна большай увагі. А ўвогуле, сказаў А. Яскевіч, атрад беларускіх перакладчыкаў можа і павінен выканаць сваю місію для ўзбагачэння літаратурных міжнародных сувязей. Гэтую думку падтрымаў у сваім слове І. Чарота. «Наш клопат, — падкрэсліў ён, — актывізаваць увагу да беларускай культуры і літаратуры... У нас пакуль што нізкі ўзровень міжнароднага кантакту. Мала надаецца ўвагі літаратурам «малых народаў» — серба-лужыцкай, чарнагорскай, харвацкай, македонскай. А таксама не стае даследаванняў гэтых літаратур».**

**На чэшска-беларускіх літаратурных узаемасувязях запыніў сваю ўвагу С. Панізнік. Пра стан супрацоўніцтва з літаратурнай Польшчай расказаў У. Мархель.**

**На пасяджэнні прысутнічаў і выступіў госць з Кіева, адказны сакратар часопіса «Тэорыя і прыктыка перакладу» В. Рабчук, які прывёз на Беларусь зямлю з магілы Тараса Шаўчэнкі.**

**НАШ КАР.**

## Памяці М. К. Хайноўскай

**Памерла Мар'я Канстанцінаўна Хайноўская (Баркоўская). Невымерна цяжка вымавіць гэта слова: пайшла, пайшла назаўсёды. 20-гадовай дзяўчынай яна пачала працаваць у Доме пісьменнікаў на Савецкай вуліцы. Зраднілася з творчым, яшчэ маладым тады калектывам «Маладняка», пасля «Узвышша». Маладыя пісьменнікі прыносілі ёй свае першыя маленькія кніжачкі вершаў і прозы, з аўтографамі, якія яна збірала ўсё жыццё.**

**Паважалі і любілі яе Колас, Купала, Бядуля, Чорны.**

**Калі сур'ёзна хварэлі пісьменнікі, яна вазіла іх у Маскву. Тут, у Мінску, запрашала прафесуру і выходжвала хворых. Цяжка ўспомніць усё добрае, што яна рабіла для людзей.**

**У часе акупацыі Мінска яна трымала сувязь з партызанамі, перадавала ім патрэбныя лекі пад пагрозай быць злоўленай і забітай...**

**Пасля вызвалення нашай сталіцы ад фашыстаў Мар'ю Канстанцінаўну ўзнагародзілі партызанскім медалём І ступені. Яна зноў вяртаецца да свае работы ў Саюз пісьменнікаў, пакрысе збірае вялікую бібліятэку.**

**У час незлічоных рэпрэсій яна адна адважылася пісаць засланым лісты, дасылаць ім беларускія газеты.**

**Людзі вярталіся пасля рэабілітацыі. Вярнуўся і Дубоўка з жонкай Мар'яй Пятроўнай. Жылі з надзеяй на ўласнае жытло нейкі час у Мар'і Канстанцінаўны. Уладзімір Мікалаевіч там пачаў пісаць вершы і аповесць для дзяцей.**

**Пры жыцці ёй належыла многа больш за яе высакародства і дабрыню...**

**Кандрат КРАПІВА,**
**Яўгенія ПФЛЯЎМБАУМ,**
**Максім ЛУЖАНІН,**
**Станіслаў ШУШКЕВІЧ,**
**Барыс САЧАНКА.**

# ДА РОДНЫХ ВЫТОКАЎ

(Пачатак на стар. 5).

напрыклад, патрабуецца сума 50,3 тыс. рублёў. Адкуль узяць такія сродкі?

У выніку па колькасці выданняў на нацыянальнай мове БССР апынулася на перадапошнім месцы сярод саюзных рэспублік, а ў разліку на душу насельніцтва — на апошнім. Пры гэтым паказчык колькасці выданняў на душу насельніцтва ў параўнанні з Узбекскай ССР меншы ў 2 разы, з Туркменскай ССР — у 4 разы, з Грузінскай ССР — у 12 разоў, з Літоўскай ССР — у 18 разоў, з Эстонскай ССР — у 35 разоў.

ПРЫВЕДЗЕНЫ матэрыял дазваляе зрабіць вывад, што калі ў Беларусі і быў калі-небудзь этап гарманічнага двухмоўя, то далейшае яго развіццё перайшло ў стадыю выцяснення беларускай мовы.

У апошні час у рэспубліцы пачала праводзіцца некаторая работа па адраджэнні роднай мовы. Нібыта спынена, нарэшце, практыка пераводу школ на рускую мову навучання, які да гэтага ажыццяўляўся пераважна без уліку грамадскай думкі. Зацверджаны «Асноўныя мерапрыемствы па далейшым развіцці народнай адукацыі ў Беларускай ССР», якімі прадугледжваецца адкрыццё ў гарадскіх школах беларускамоўных класаў. Распрацоўваецца рэспубліканская праграма «Родная мова». Усё гэта карысныя меры, але зразумела, што істотных змен у існуючую моўную сітуацыю яны не ўнясуць. Няма сумнення, што нацыянальная беларуская мова да таго часу не зойме належнага ёй месца ў Беларускай ССР, пакуль народ не будзе знаходзіць сферы яе практычнага прымянення. Без пераводу на беларускую мову дзяржаўных органаў рэспублікі ўсіх рангаў, справаводства і судаводства, без выкарыстання беларускай мовы ў пісьмовай і вуснай формах ва ўсіх галінах грамадскага жыцця, а ў сувязі з гэтым без абавязковага вывучэння беларускай мовы ва ўсіх школах і ВНУ Беларусі дзецьмі пастаянных жыхароў незалежна ад іх нацыянальнасці, а беларускімі дзецьмі пачынаючы з сям'і і дзіцячага сада, без прывядзення колькасці беларускамоўных і рускамоўных школ у суадносіны, прапарцыянальныя колькасці беларускага і рускага насельніцтва, без пераходу на беларускую мову рэспубліканскага, абласнога і раённага перыядычнага друку — аб гарманічным беларуска-рускім двухмоўі не можа быць і размовы. Пусціць справу на самацёк або змірыцца з думкай, што адны грамадскія сферы могуць абслугоўвацца рускай, а другія беларускай мовай, для Беларусі раўназначна пераходу да аднамоўя. Пры такім падыходзе практычнае прымяненне беларускай мовы звядзецца толькі да мастацкай літаратуры, якую не будзе каму чытаць.

Сёння перад беларускім народам абмежаваны выбар — або канчаткова перайсці на рускую мову і перастаць нават звацца беларусамі, або, каб не страціць сваю нацыянальную самабытнасць у сям'і раўнапраўных народаў СССР, вярнуцца да родных моўных вытокаў. Першы шлях — просты і лёгкі, а каб пачаць падарожжа па другім шляху, неабходны радыкальныя меры, і ў першую чаргу заканадаўчае аб'яўленне беларускай мовы дзяржаўнай мовай на тэрыторыі рэспублікі.

Узяць на сябе клопаты аб захаванні, павышэнні прэстыжнасці і развіцці мовы асноўнай нацыянальнасці — гэта прамы абавязак дзяржаўных органаў, калі яны выступаюць ад імя гэтай нацыянальнасці. Разам з тым павінна быць забяспечана магчымасць карыстацца роднымі мовамі нацыянальным меншасцям.

# МОВА—КНІГА—АДРАДЖЭННЕ

**Ліст у рэдакцыю**

У змаганні за дэмакратычную прававую дзяржаву адной з самых найважнейшых праблем з'яўляецца вяртанне законных правоў нашай мове. Мы стаім цяпер перад патрэбаю радыкальных дзяржаўных захадаў, скіраваных на рэальнае сцвярджэнне нацыянальнай справядлівасці, адраджэння духоўных багаццяў народа, забеспячэння шырокага функцыяніравання і ўсебаковага развіцця беларускай мовы — вызначальнага фактару народа як этнасу. Сапраўдная перабудова ў нацыянальнай сферы, вяртанне да ленінскай нацыянальнай палітыкі немагчымыя без аднаўлення дзяржаўнасці беларускай мовы — як гарантыі таго, што першыя крокі на шляху падняцця прэстыжу нашай мовы не застануцца без працягу.

Безумоўна, вяртанне беларускай мове статуса дзяржаўнасці само па сабе праблемы не вырашыць. Адпаведны закон трэба забяспечыць канкрэтнаю праграмаю дзеянняў, а не расплывістымі фармуліроўкамі тыпу «палепшыць прапаганду...», «увесці дадатковую колькасць гадзін...», «актывізаваць настаўніцкія калектывы...».

Сярод першачарговых задач павінна быць адкрыццё патрэбнай колькасці (прапарцыянальна нацыянальнаму складу насельніцтва) беларускамоўных дзіцячых садоў, школ, стварэнне беларускіх груп і патокаў у сярэдніх навучальных установах і ВНУ. Трэба неадкладна пазбавіцца ад цяперашняга дыскрымінацыйнага становішча, пры якім настаўнік рускай мовы ў беларускай школе атрымлівае за аднолькавую колькасць гадзін большую зарплату, чым у рускіх школах настаўнік беларускай мовы.

Праблема павароту да роднай мовы актуальная і для дзейнасці Дзяржкамвыда БССР, у сістэме якога мы працуем. Лічым, што неабходна разумная пераарыентацыя выдавецкай палітыкі ў кірунку да нацыянальнай культуры, духоўных патрэб свайго народа. Цяпер на беларускай мове выдаюцца пераважна творы беларускіх пісьменнікаў, навукова-папулярныя кнігі філалагічнага профілю ды некаторыя энцыклапедычныя выданні. Аднак такім «асартыментам» нельга задаволіць ні духоўныя патрэбы гарманічнай, усебакова развітай асобы, ні духоўныя патрэбы ўсёй нацыі. Таму трэба вітаць выданне стотомнай серыі «Скарбаў сусветнай літаратуры», распачатае выдавецтвам «Мастацкай літаратуры». Але шкада, што ў яе не ўвайшлі многія шэдэўры сусветнай класікі. Няма ў нас і прадуманай праграмы далучэння праз родную мову да скарбаў сусветнай класікі дзяцей і юнацтва. Чым растлумачыць, што з трыццатых гадоў не перавыдаюцца па-беларуску творы Ж. Верна, М. Твэна, Ф. Купера, Стывенсана і інш?

Культура ўключае ў сябе не толькі мастацкую літаратуру, але і ўвесь абсяг інтэлектуальнай дзейнасці чалавецтва. Аднак большасць нашых выдавецтваў рухаецца па інерцыі, амаль уся іх прадукцыя рускамоўная. А між тым колькі для павышэння прэстыжу роднай мовы магла б зрабіць «Энцыклапедыя маладой сям'і», іншыя цікавыя, разлічаныя на масавага чытача, на моладзь, выданні, якія выпускае «БелСЭ»! Пакуль што выдавецтвы рэспублікі, не маючы адпаведных заявак ад Міністэрства адукацыі БССР, не пайшлі насустрач ініцыятывам педінстытутаў, Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны, Беларускага тэхналагічнага інстытута, дзе распачата выкладанне на беларускай мове дысцыплін нефілалагічнага профілю, а без адпаведных падручнікаў і дапаможнікаў выкладчыкі і студэнты сустракаюцца з вялікімі цяжкасцямі.

Некаторыя ж падручнікі «нацыянальнага» профілю не адпавядаюць сучасным патрабаванням, напісаны нецікава, без унутранай любові аўтараў да свайго прадмета, без імкнення выхаваць годнаснага чалавека, патрыёта роднай зямлі. Сказанае ў першую чаргу датычыць падручнікаў па гісторыі БССР для сярэдняй школы і ВНУ. Надзвычай важны для патрыятычнага станаўлення асобы прадмет пазбаўлены самастойнасці, духоўнага напаўнення і існуе ў якасці не надта абавязковае даважкі да курса гісторыі СССР.

Паўнакроўнае развіццё мовы з'яўляецца гарантам развіцця культуры ўвогуле. Заняпад роднай мовы спрычыніўся да таго, што Беларусь стаіць цяпер на адным з апошніх месцаў па перакладах, відавочна прайграе ў параўнанні, скажам, з нашымі суседзямі-прыбалтамі, у тэатральным, музычным і выяўленчым мастацтвах, у побытавай, архітэктурнай, прававой і экалагічнай культуры.

Лічым, што для Беларусі на сёння актуальная не толькі распрацоўка праграмы «Родная мова», але і ўсебакова абгрунтаваная, юрыдычна і эканамічна забяспечаная праграма нацыянальнага культурнага адраджэння.

Справа, вядома, не ў абвяшчэнні чарговых дэкларацый, а ў магчымасцях канкрэтнай работы на месцах — у кожнай установе, на кожным прадпрыемстве ёсць па-грамадзянску актыўныя людзі, аднак цалкам рэалізаваць сябе можна не паасобку, а супольна. Менавіта гэта ўсвядомілі супрацоўнікі Дзяржкамвыда БССР, што аб'ядналіся ў таварыства «Абсяг». Суполка займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю, выступае з грамадскімі ініцыятывамі, адной з якіх з'яўляецца і гэты ліст.

**Супрацоўнікі выдавецтваў «Мастацкая літаратура», «Народная асвета», «Ураджай», «Універсітэцкае», выдавецтва «БелСЭ», «Полымя», «Беларусь», Кніжная палата БССР, «Вышэйшая школа», «Навука і тэхніка», «Юнацтва» — Я. ЛЕЦКА, Р. БАРАДУЛІН, Б. САЧАНКА, Я. ГУЧОК, В. ЗАНЬ, А. МАЖЭЙКА, Я. САЛАМЕВІЧ, Л. МАЛІНІНА, Т. МУХІНА, У. НОВІК, В. СЯРМЯШКА, А. КОСАРАВА, Л. ПЯТРОВІЧ, В. ДРОЗД, Э. ГНЕЎКА, Я. ГАЙШУН, С. МІХАЙЛАВА, А. МАРЧАНКА, Л. КАЗЛОЎСКАЯ, З. САНЬКО, С. ПАНІЗНІК, У. МАРУК — усяго звыш 200 подпісаў.**

# ЗНАЁМЫ РЭФРЭН І РЭАЛЬНЫЯ ЛІЧБЫ

**По слядах «круглага стала», праведзенага Віцебскай абласной студыяй тэлебачання**

За «круглым сталом» Віцебскага тэлебачання сабралася невялікая па колькасці група аднадумцаў-энтузіястаў, носьбітаў і перакананых прапагандыстаў беларускай мовы. Нябачнымі ўдзельнікамі «круглага стала» былі таксама тысячы тэлегледачоў, якія трымаюцца розных думак адносна праблемы, якая абмяркоўвалася, што і пацвярджалі іх шматлікія званкі ў студыю ў час трансляцыі. Аднак ужо ў ходзе перадачы мне ўявіўся другі «круглы стол», памеры якога цяжка ўявіць, стол, за якім маглі б сабрацца мільёны людзей, што жывуць цяпер на зямлі беларускай. У кожнага з іх свае адносіны да мовы рэспублікі, дзе яны жывуць, кожны паасобку і ўсе яны разам узятыя — адлюстраванне гістарычнага лёсу шматпакутнага народа і яго шматпакутнай зямлі.

Гісторыя беларускай мовы ведала многае, бачыла featureознае — ад прызнання дзяржаўнасці да поўнага адмаўлення. Беларускую мову цкавалі адкрыта і растваралі пакрысе. А яна жыла, змагалася і выжыла, таму што яе носьбітам і захавальнікам быў народ.

Вазьму на сябе смеласць меркаваць, што высвятленне думкі па абмяркоўваемым пытанні ў сотні чалавек, якія жывуць у Беларусі і з'яўляюцца прадстаўнікамі розных грамадскіх пластоў, людзей рознага ўзросту і адукацыйнага ўзроўню, можа прэтэндаваць на сацыяльны зрэз, у якім праяўляюцца многія праблемы ў тым аспекце, у якім яны характарызуюць становішча ў цэлым. Вынікі праведзенага мною анкетавання ўяўляюцца мне цікавымі і ў значнай меры паказальнымі для характарыстыкі цяперашняй моўнай сітуацыі ў рэспубліцы. Ужо пасля апытання 80—90 чалавек пачала вымалёўвацца агульная тэндэнцыя, і далейшае павелічэнне колькасці апытваемых практычна не змяняла вынікаў апытання ў цэлым. Верагодна, анкетаванне насельніцтва сельскай мясцовасці, іншых абласцей, раёнаў рэспублікі магло б унесці некія карэктывы ў гэтыя вынікі, аднак мой шматгадовы вопыт сувязі з людзьмі з розных кутkoў Беларусі дазваляе мне рабіць некаторыя высновы пра агульныя заканамернасці, характэрныя для становішча роднай мовы ў Беларусі.

Анкетуемым было прапанавана некалькі пытанняў: аб іх стаўленні да беларускай мовы ў цэлым і да разгорнутага ў рэспубліцы руху за яе адраджэнне, аб тым, якімі яны хацелі б бачыць гэтыя адносіны ў сваіх дзяцей, аб нацыянальнай літаратуры, тэатры і г.д. Характэрна, што некаторыя з тых, хто адказваў, адзначалі, што ў апошні час, калі ўвага грамадскасці пачала больш прыцягвацца да пытанняў нацыянальнай мовы, гісторыі культуры, яны пачынаюць пераглядаць сваё ранейшае, часта негатыўнае стаўленне да беларускай мовы. Першае і галоўнае, што звяртае на сябе ўвагу пры падвядзенні вынікаў анкетавання, — станоўчае ў цэлым (насуперак думцы, якая бытуе ў апошнія гады) стаўленне да беларускай мовы ў пераважнай большасці (73%) людзей як беларускай, так і іншых нацыянальнасцей. 7% апытаных вызначылі сваё стаўленне да беларускай мовы як нейтральнае.

Выказваючы featureознае, часта адмоўнае, стаўленне да прапановы аб увядзенні справаводства на беларускай мове, большасць апытаных станоўча ў цэлым ацэньваюць рух за адраджэнне, больш шырокае распаўсюджанне беларускай мовы. Пераважная большасць апытаных (71%), нават тыя, хто ведае яе кепска ці не ведае зусім, лічаць, што іх дзеці павінны вывучаць і ведаць беларускую мову. Значыць, шматгадовая свядомая ці несвядомая асіміляцыя беларускай мовы, пагардлівыя адносіны да яе не вытруцілі са свядомасці людзей разумення значнасці сваіх моўных каранёў.

На пытанне «Ці шкадуеце вы аб тым, што не ведаеце або недастаткова ведаеце беларускую мову, і ці лічыце гэта стратай у сваім духоўным развіцці?» толькі 36% апытаных адказалі «так». Нацыянальная мова — нацыянальная гісторыя — нацыянальная культура — духоўнае багацце. Гэтыя паняцці, на жаль, не заўсёды звязваюцца ў свядомасці людзей як звенні аднаго ланцуга, як паняцці ўзаемазначныя і ўзаемазалежныя. Чаму не дыскамфортна многім ва ўмовах яўнага і абуральнага дэфіцыту гэтых духоўных каштоўнасцей? Мне ўспамінаецца расказ знаёмай жанчыны, якая паехала ў Манголію з пяцімесячным сынам. У маці амаль не было груднога малака, і на новым месцы хлопчыка кармілі зрэдку малочнымі сумесямі, часцей — сокамі. У паўтарагадовым узросце, прачынаючыся ноччу, дзіця прасіла толькі сок. Цяпер яму сем гадоў, малако ён не любіць дагэтуль. Думаючы пра тых, хто не ўвайшоў у тыя самыя 36%, я задаю сабе пытанне: ці можа чалавек адчуваць страту таго, чаго не меў, што было змалку паднесена яму ў крывым люстэрку? Ці не тут хаваюцца прычыны пэўнага супраціўлення з боку патомных беларусаў руху за адраджэнне мовы продкаў, за адраджэнне ў канчатковым выніку нацыянальнай самасвядомасці? Разам з тым, як паказвае апытанне, гэтае супраціўленне носіць часам супярэчлівы, неадназначны характар і распаўсюджваецца далёка не на ўсе цяпер існуючыя сферы дзеяння беларускай мовы, акрамя таго за гэтым процідзеяннем хаваецца часам супраціўленне не толькі мове, колькі з'явам, з мовай звязаным досыць адносна.

Напрыклад, агульнавядомы дэфіцыт высокамастацкай дзіцячай літаратуры. У апошні час у кніжных магазінах з'явілася нямала маляўніча аформленых, выдадзеных на добрай паперы дзіцячых кніг. Аднак кнігі гэтыя часам так і застаюцца на прылаўках пасля таго, як высвятляецца, што выдадзены яны на беларускай мове. А калі паспрабаваць высветліць, колькі бацькоў вяртаюць кнігу на прылавак толькі з-за беларускай мовы, а колькі па прычыне папярэдняга азнаямлення з яе зместам? І сярод 60% ад агульнай колькасці апытаных бацькоў, якія купляюць сваім дзецям кнігі на беларускай мове, і сярод 40% — якія не купляюць, чуліся нараканні на тое, што змест гэтай літаратуры часта пакідае жадаць лепшага. Ці прыклад такога роду: рэфрэн, які набіў аскоміну і гучыць з вуснаў пэўнай часткі жыхароў абласнога цэнтра з прычыны іх рэдкага наведвання тэатра Я. Коласа ў выніку таго, што са сцэны гучыць толькі беларуская мова, пры бліжэйшым разглядзе высвечвае і іншыя свае вытокі. 63% апытаных адказалі, што не наведвалі б тэатр часцей, калі б спектаклі ішлі на рускай мове.

Думаю, што ўсё ж не меў рацыі адзін з апытаных мною маладых людзей (дарэчы, беларус), калі, адказаўшы на мае пытанні і выказаўшы пры гэтым яўную непавагу да мовы роднай зямлі, ён пераможна і самаўпэўнена дадаў: «Па-мойму, так думае большасць». А між тым, большасць адказала, што жадаюць мець абласную газету, як і цяпер, на беларускай мове, большасць (няхай не актыўна, а пакуль толькі пасіўна) выступаюць за пашырэнне сферы развіцця беларускай мовы, большасць не хоча бачыць сваіх дзяцей бязроднымі Іванамі. Аднак гэта не выключае сур'ёзных праблем, якія існуюць сёння ў становішчы нацыянальнай мовы, аб якіх з трывогай гаварылі ўдзельнікі «круглага стала». Яшчэ мала актыўных змагароў за сцвярджэнне беларускай мовы як паўнапраўнай мовы паўнапраўнага народа, яшчэ недастаткова актыўных прапагандыстаў айчыннай гісторыі і культуры ў яе лепшых праявах як прадмета нацыянальнага гонару. Вялікую ролю тут павінна адыграць педагагічная грамадскасць рэспублікі. Педагог, незалежна ад таго, у якой галіне ведаў ён з'яўляецца спецыялістам, заклікаць быць носьбітам як агульначалавечай, так і нацыянальнай культуры. На жаль, мы вымушаны сёння канстатаваць сумны факт, што гэтай місіі значная частка настаўніцтва не выконвае.

На жаль, засталася нерэалізаванай ідэя стварэння рэспубліканскага музея гісторыі асветы Беларусі (такія музеі ёсць у шэрагу рэспублік), дзе можна было б убачыць цэласную карціну гісторыі асветы зямлі, якая мае глыбокія гістарычныя карані барацьбы за святло ведаў, зямлі, асветленай імёнамі яркіх зорак культуры, якія маюць сусветнае значэнне.

Упэўнена, прапаганда ведаў нацыянальнай гісторыі і культуры паможа абуджэнню цікавасці да роднай мовы. Даўно заўважана — людзі, якія не ведаюць гісторыі і культуры роднага краю, не вызначаюцца глыбокімі ведамі і інтарэсам да духоўнай культуры іншых народаў. У гэтым выпадку ў наяўнасці сімптомы небяспечнай хваробы — агульнага духоўнага збяднення. На цяперашнія пакаленні беларусаў кладзецца асаблівая адказнасць за адраджэнне і захаванне неацэннага багацця роднай культуры і перадачу яе нашчадкам. Важна не забываць гэтага і жыць кожны дзень гэтай думкай.

**Н. НІКІЦІНА.**

АД РЭДАКЦЫІ: калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны да друку, мы даведаліся аб заўчаснай смерці нашага аўтара, метадыста Віцебскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў Н. М. Нікіцінай.

## З паэтычнага сшытка

**Уладзімір СКАРЫНКІН**



### Разбурыце БУРы* душ!

Бураны гневу,
Абурэння буры
Дашчэнту ўрэшце
Разбурылі БУРы.

Даўно ў Бураціі,
Пад Магаданам
Падмуркі БУРаў
Зараслі бур'янам.

І ўсё-ткі рана
Радавацца бурна:
Бывае часам
І сягоння БУРна.

Запахне прэса
Поснаю бурдою,
Або хто-небудзь
Блісне кабурою—

І ходзіш ты
Бурклівы і пануры,
Нібы вязень
У халодным БУРы.

Журботна і таму,
Што ў час рахманы
Душ чалавечых
БУРы не зламаны.

Мы ў БУРы душ
Уласнае сумленне
На вечнае
Ссылаем пасяленне.

Няўжо нам будуць
Трызніцца вякамі
Мядзведзі бурыя
З бурундукамі?

Бураны гневу,
Абурэння буры
Душ чалавечых
Разбурыце БУРы!

* БУР — барак узмоцненага рэжыму.

●

Пілоты сцвярджаюць і сведчаць
шафёры:
Чамусьці на месцы аварый цяжкіх
Не выратавальнікі, а марадзёры
Звычайна раней прыбягаюць за ўсіх.
Гадзіннікі і залатыя пярсцёнкі,
Пагардліва гледзячы ў вочы жывым,
Здымаюць з ахвяр бессаромна падонкі
З крывою душой і паглядам крывым.
Кульбіты выконваюць не каскадзёры.
І не бутафорныя блокі гараць.
І «кааператары», як марадзёры,
Здзіраюць паспешна, што можна
садраць.
Мне ўсмешка сягоння нялёгка далася—
Ад жаху і страху сціналіся ўвесь,
Як быццам аварыя ўжо адбылася,
А выратавальнікі позняцца дзесь.

### Рука былога сябрука

Мне часта мроіцца рука—
Рука былога сябрука.

Ад поціску яго рукі
У душы спявалі жаўрукі.

І я сціскаў яе раней
Таксама—як мага мацней.

З-пад гэтай жылістай рукі
Аднойчы выбеглі радкі:

«Нягай пяе душа твая—
Табе павек не здраджу я».

О, як удзячны дружбаку
Быў я за прысвячэнне!
За сябра я сваю б руку
Аддаў на адсячэнне.

Ды не пайшоў за сябра ў бой
Таварыш мой, паплечнік мой.

Калі ў чаканні сход прыціх,
Падняў руку вышэй за ўсіх.

Не ўстрымаўся ён—о, не!—
Падняў руку супроць мяне.

Падняў, каб толькі дагадзіць
Таму, хто можа ўсіх судзіць.

Падніме ўгору вось такі
У час небяспекі дзве рукі.

Учора зноў на бальшаку
Я з «сябрам» сустракаўся.
Ён працягнуў сваю руку.
А я не парукаўся.

І хай мяне прабачыць бог,
Што парукацца я не змог.

Я сціснуў бы рукой сваёй
Руку з магутнай пяцярнёй,
Каб гэта не была рука
Майго былога сябрука.

### З сонцам на вейках

Гаўрылу ШУТЭНКУ

Бой жорсткі і кароткі быў.
Аднекуль раптам немец выбег—
І вас навекі асляпіў
Асколачнай гранаты выбух.

З хвіліны гэтай ракавой
Жыццё для Вас—як поле бою.
О, як нялёгка выйграць бой
Разведчыку са слепатою!

О, як няўмольна ў час цяжкі
Адчай да сэрца падпаўзае!
А Вы складаеце радкі —
І ў Вас на вейках сонца ззяе.

У цёплы сонечны дзянёк
На зайздрасць зломку-малаверу
Зноў утыкаеце ў пянёк
Вы сувенірную сякеру.

Не здамся я і сам, калі
Вы будзеце казаць, хоць зрэдку
Пераканана, што пайшлі
Са мною б разам у разведку.

●

Не цешыць сэрца шэлест белых мух:
Хоць белы свет і белы, ды панылы...
Але ўзлятае за аблокі дух—
І сонца ярка азарае крылы.

Займаюць дух абсяг і вышыня,
Ты спачуваеш слімакам-нябогам.
І паляўнічых прагная гайня
Дарэмна прытаілася за стогам.

Ніхто твой дух не знішчыць, не заб'е.
Ты нават гучных стрэлаў не пачуеш.
Усемагутным богам сам сябе
Ты на хвіліну нейкую адчуеш.

Ты п'еш нагбом сырую вышыню,
Як некалі ў далёкай маладосці,
І, пэўна, не баішся ўпершыню
Уласным ценем засланіць кагосьці.

●

В. П.

У цішу крохкую лясную,
У заінелую бязмеж
Ты радасць простую, зямную
Мне адвячоркам прывязеш.

Дзе сінь над Іслаччу разліта,
Дзе ледзякі звісаюць з лоз,
Прасейваць шорахі праз сіта
Нам будзе ранішні мароз.

Усё мізэрнае, пустое
Адсеецца само сабой.
Я лёс благаслаўлю за тое,
Што ты са мной, што ты са мной.

---

Шлях мастака заўсёды цярністы і складаны, тым больш мастака няўрымслівага, творча актыўнага, які не дазваляе сабе стаяць на месцы, шукае новыя берагі ў мастацтве, часам насуперак звыклым густам і ўстойлівым ацэнкам. Ды ўсякае мастацтва скіравана перш за ўсё на ўспрыманне: тэатр не можа без гледача, музыка — без слухача... Так і кожны мастак мае патрэбу перш за ўсё ў прызнанні, у падтрымцы, ва ўсведамленні таго, што ягоная творчасць кагосьці хвалюе, радуе ці прымушае задумацца. Гэта дае новыя творчыя імпульсы, падтрымлівае жаданне ствараць. І як важна, каб увага да мас-

## Музыка

# Пакуль—без «лаўраў»

**Рысы творчасці маладога кампазітара А. БАНДАРЭНКІ**

така не спазнілася, каб прызнанне не было рэтраспектыўным, каб наша грамадства, урэшце, не губляла маладых, моцных, яркіх, але непаразумстых і таму незаўважаных (ці, наадварот, незаўважаных, а таму не вядомых нікому) талентаў.

Мне нават здаецца куды больш значным праяўляць цікавасць да творчасці таго ці іншага маладога мастака, паэта ці кампазітара, чым у чарговы раз увенчваць лаўрамі і без таго імі абцяжаранага «маэстра», які часам, на жаль, спачывае на іх, і не больш...

Вось чаму вельмі своечасовай падзеяй у жыцці маладога гродзенскага кампазітара Андрэя Бандарэнкі падаўся яго творчы вечар, наладжаны па ініцыятыве Гродзенскага абласнога аддзялення Музычнага таварыства БССР і музычнага вучылішча. І хаця музыка А. Бандарэнкі ўжо гучыць у рэспубліцы і за яе межамі і, па сутнасці, вострага дэфіцыту папулярнасці ён не адчувае, тым не менш, думаецца, гэты аўтарскі канцэрт надоўга застанецца ў памяці кампазітара і ягоных землякоў—аматараў музыкі.

Першы крок да прызнання, першая своеасаблівая творчая справаздача перад музычнай грамадскасцю роднага горада... У праграме была пераважна камерная музыка, бо, на жаль, выканаўчыя сілы Гродзеншчыны пакуль (хочацца спадзявацца, што пакуль) не маюць магчымасці прадставіць на суд слухачоў ужо атрымаўшыя прызнанне буйныя харавыя і аркестравыя творы А. Бандарэнкі. Але тое, што прагучала, таксама дазволіла скласці пэўнае ўражанне пра стыль кампазітара, пра тыя вытокі, што жывяць ягоную творчасць, пра думкі і праблемы, што хвалююць маладога аўтара.

Паспрыяў гэтаму і сур'ёзны, удумлівы дыялог, які вяла з публікай музыказнаўца Святлана Калчанава. Яна даволі поўна і дакладна прадставіла творчы партрэт кампазітара, вырашыўшы вельмі няпростую задачу: перакласці надта складаную мову музыкі на зразумелую для ўсіх мову слоў. Яе тлумачэнні, безумоўна, дапамаглі слухачам пранікнуць у аўтарскую задуму твораў. Напрыклад, Струннага квартэта, насычанага глыбокім філасофскім зместам. Выкананы Анатолем Сматрыцкім (1-я скрыпка), Наталляй Трухан (2-я скрыпка), Алегам Целяпнёвым (альт) і Мірай Пескінай (віяланчэль), твор гэты выявіў даволі высокі прафесіяналізм А. Бандарэнкі.

З вялікай цікавасцю аўдыторыя ўспрыняла і тры яго п'есы для фартэпіяна, натхнёна выкананыя маладым піяністам Уладзімірам Лябецкім, вяртанне якога ў Гродна пасля вучобы ў кансерваторыі значна ажывіла канцэртнае жыццё горада. Яркасць і кантрастнасць вобразаў, тыповыя для многіх твораў А. Бандарэнкі звонкавасць гучання, эпічны размах, старажытнарускі каларыт музычнага тэматызму паказалі пераемнасць творчасці маладога кампазітара ў адносінах да лепшых старонак рускай класічнай музыкі.

Увогуле ж, імкненне да старажытных вытокаў, да найшырэйшага пласту мастацкай культуры, з якога ўзніклі крэўныя сувязі ўсходнеславянскіх народаў, — адна з найбольш характэрных рыс творчасці А. Бандарэнкі. І гэта выяўляецца ў самых розных ягоных творах. Прынамсі, у выкананай на канцэрце фантазіі для віяланчэлі і фартэпіяна «Славянская старадаўнасць», сама назва якой ужо многае тлумачыць слухачам. Яе выканалі М. Пескіна і сам аўтар, утварыўшы тонкі і суладны дуэт. Дарэчы, А. Бандарэнка выступіў у той вечар не толькі як чулы акампаніятар, але і як саліст, даволі спрактыкаваны ў тонкасцях піянізму. Ён выканаў уласны фартэпіянны цыкл п'ес для дзяцей (п'есы, напісаныя спецыяльна для дзіцячага музіцыравання і ўжо ўжываюцца ў практыцы Гродзенскай музычнай школы № 1).

Тая самая тэндэнцыя — цікавасць да старажытнаславянскага—назіраецца і ў Санаце для флейты і фартэпіяна, дзе праз віртуозныя пасажы флейты (Аляксей Шчэрба), часам прарэзлівыя, дысанантныя акорды фартэпіяна (Людміла Нікіціна) прабівалася абрамляючая твор тэма царкоўнага велікоднага напеву, быццам сімвал вечнага, непазбыўнага, мудрага...

Моцная цікавасць да царкоўнай музыкі як да аднаго з ярчэйшых пластоў нашай старажытнай культуры таксама ўласцівая А. Бандарэнку. Прычым, гэта не даніна сённяшняму часу, а даўно сфарміраваная і цалкам асэнсаваная пазіцыя. І таму зусім натуральным было з'яўленне ў праграме вечара двух духоўных твораў, якія прагучалі ў выкананні хору пад кіраўніцтвам Ларысы Іконнікавай. Глыбокая, маральна ўзвышаная і чыстая, урэшце, проста сама па сабе прыгожая музыка паказала бліскучае веданне аўтарам традыцый славянскіх царкоўных спеваў, не даючы ў той жа час забыцца, што аўтар — наш сучаснік, кампазітар канца XX стагоддзя. Хор выканаў таксама апрацоўку беларускай народнай лірніцкай песні «Даўно, даўно тое было...» — гэта засведчыла, што А. Бандарэнка неабыякавы і да нашага нацыянальнага фальклору.

Выступленне хору было апошнім у праграме канцэрта. І вось — авацыя. Гродзенцы віталі і віншавалі свайго таленавітага земляка (дарэчы, не ўсякі абласны цэнтр можа пахваліцца «уласным» членам Саюза кампазітараў СССР). Нягледзячы на пэўныя складанасці з арганізацыяй, на недахват часу для рэпетыцый і да т. п., творчы вечар Андрэя Бандарэнкі ўсё ж такі ўдаўся. Напэўна, у яго яшчэ будуць такія вечары і, хочацца спадзявацца, на больш высокім узроўні. Ну, а гэты дасць упэўненасць у правільнасці абранага шляху, ва ўласных сілах, дасць той неабходны імпульс для новых дасягненняў.

Успамінаецца, як адзін з удзельнікаў вечара, вядомы дзеяч культуры Беларусі А. Чопчыц з гонарам пералічыў імёны вядомых беларускіх кампазітараў — ураджэнцаў Гродзеншчыны, ды з яшчэ большым гонарам гаварыў пра Андрэя Бандарэнку, які застаецца верны роднаму гораду.

У гэтым ёсць праблема, надта актуальная і далёка не адназначная. Вядома, у сталічных гарадах станаўленню і развіццю маладога таленту спрыяюць інтэнсіўнае канцэртнае жыццё, гастролі, выстаўкі і да т. п., менш праблем з выкананнем уласных твораў (усё ж такі ёсць і аркестры, і цудоўныя салісты). Але ж неабходна ладзіць умовы для актывізацыі музычнага жыцця і «на месцах», адкрываць філармоніі, канцэртныя залы, ствараць аркестры...

А для гэтага, безумоўна, патрэбна вялікая дапамога адпаведных кіруючых устаноў, і ў першую чаргу фінансавая. Бо значна больш правільным і надзейным падаецца шлях збліжэння сталіцы і правінцый, чым, наадварот, іх далейшае размежаванне. Тады, я ўпэўнены, многія маладыя гродзенцы, віцябляне, гамяльчане і іншыя не захочуць рабіцца мінчукамі. Але ж, паўтаруся, трэба ствараць умовы для нармальнага жыцця і росту тых талентаў...

Не хочацца канчаць на песімістычнай ноце. А таму пакіньма ў душы надзею на лепшае і яшчэ раз падзякуем Андрэю Бандарэнку і арганізатарам ягонага вечара.

**Аляксей САЛАДУХІН.**

г. Гродна.

## *Музам на пацеху*

**Людміла КАТРАНЖЫ**

# ЛІСТ ДА СЫНА

**Прывітанне, сынку, плоць ад плоці, дзіця прыроды і пароды маёй! Як жывеш? Ці здаровы, што задумаў на заўтра, непрадказальны мой Гома Сапіенс?!**

**Пішу табе на Усход, Захад, Поўнач, Поўдзень — дзе б ты ні жыў і як бы ні называўся: Гома, Хома ці, можа, проста Хама. Адным словам, пішу Чалавеку, табе, значыць, разумнік мой ненаглядны! Лепей было б, вядома, пагаварыць нам самнасам, але дзе там!.. Усюды тлум ды шум, гудуць індустрыялізацыі, выюць гарластыя рок-ансамблі! Не пачуеш, аглухлы мой. А я ж цябе магутным здароўем надарыла! Бывала, ільдамі скаваная, сама ледзь жывая, а мой Гома Сапіенс — сапе. Дыназаўры павымерлі, а ты выжыў! Бо я табе кроў гарачую і розум, гэты самы сапіенс, дала!**

**Вось наконт сапіенса і пішу табе, Гома мой гарачы, звяртаюся да тваіх сыноўскіх пачуццяў, хаця... Што гаварыць! Многія дзеці за пачуцці да бацькоў бяруць... Чым могуць: «жыгулямі», грашамі, сама меней салам ці бульбай.**

**Нарадзіла я цябе, разумнік мой, а да канца зразумець не магу. То ганаруся — у космас жа вырваўся! — то... вочы б мае цябе не бачылі! Што ты цягнеш туды з сабою?! Вянец тварэння майго, Сапіенс незгаворлівы! Мала таго, што мяне тут, дома, трасе ад тваіх ваенных гульняў, ты яшчэ ў космас хочаш войны перанесці, каб іншыя галактыкі на мяне пальцамі тыцкалі?!**

**І з самага маленства так!.. Варта было мне толькі адвярнуцца—зараз жа нешта і натворыш, творца апантаны!.. То страла, то ружжо, то гармата! — То ракета.., то... вымавіць страшна!**

**Нам спакою з твайго нараджэння няма! Я дзеля чаго табе у твой розум супярэчлівасці падкінула? Каб ты ў спрэчках мог ісціну нарадзіць. А ты во які: не сябе крытыкуеш, не з сабою спрачаешся — з іншымі! Ды яшчэ ваяваць бярэшся! Ці можна вытрымаць такое?! Ты ж маё найлепшае тварэнне! Ты ў мяне адзін разумны, а, галоўнае: ты СА-ПІ-ЕНС, а не ХА-ПІ-ЕНС. Не блытай, непаўторны мой, прашу цябе!**

**Я маці, таму шмат чаго даравала, спадзеючыся на лепшыя парыванні тваёй душы. Ты ж паўстаў на ногі — я табе не забараняла! На здароўе! Бяры сваю прамую постаць і сумленна набыты радыкуліт. Не захацеў хадзіць пехам — калі ласка! Сядай у «жыгулі» ці ў якую «тайёту», а гіпадынамія вярхом на табе паедзе. Ты хочаш пераўтвараць? Валяй. Але ўсяму ёсць мяжа, бязмежны мой! Навошта перакручваць мае рэкі? Урадлівыя палі і лугі ператвараць у азёры, празрыстыя азёры — у балоты, а жывыя балоты — у пустыні?!**

**А колькі дрэў ты згубіў з таго часу, як злез з дрэва?! (Лепей не злазіў бы!) Бо, відаць, адтуль цягнецца твой запал сячы сук, на якім сядзіш, Сапіенс неўтаймоўны! Вось чаму сёння тваіх малодшых братоў і сясцёр толькі і знойдзеш, што ў Чырвонай кнізе.**

**З фабрык, заводаў у рэкі бруд спускаеш і нават уласныя машыны ў рэках мыеш, а потым тую ваду п'еш. А гэта ўжо горш за чарніла. Праўда, ведаю: зараз не ўжываеш. Але табе «завязваць» трэба не толькі з чарніламі, бяздонны мой. Загубіш розум — рыдлёўкай у галаву не накідаеш! Памятай!**

**Вельмі розны ты ў мяне, паследак, паскрэбак мой адзіны: вялікі і нізкі. Вялікі, калі думаеш пра галодных — робіш рэвалюцыі і ахвяруеш сабой у імя ўсеагульнага шчасця. Нізкі, калі клапоцішся пра свае пасады, кішэні, альбо з-за прагнасці да мільёнаў пасылаеш іншых на бойню. Вялікасць твая мяне акрыляе, нізасць палохае.**

**Мне жудасна, сыне, што ты ўсё далей і далей адыходзіш ад мяне. Спачатку з пячоры ў халупу схаваўся, з халупы — ў хаціну, адтуль у камунальны дом... А ці бачна табе з тваіх шматпавярховых кватэр і кабінетаў, што робіцца ўнізе?**

**Ты расшчапляеш маю матэрыю, і я табе не перашкаджаю, але глядзі, каб пасля твайго расшчаплення было што сабраць. Магчыма, мы з табой адны ў цэлым сусвеце. Разумееш, якая на табе адказнасць? Зразумей. Ты ўжо пастарайся, мой светлы, прамяністы мой!**

**А на развітанне прашу: павярніся да мяне, паглядзі на свае справы. Я пакуль яшчэ ў сіле (пакуль!).**

**Чакаю і спадзяюся. Твая маці-зямля.**

**Алесь ЖАМОЙЦІН**

# ВЕРАБЕЙ У ПАДСУСЕДЗЯХ

Верабей у падсуседзі
Да бусла папрасіўся аднойчы:
— Мы з табою, — казаў, —
Адное, птушынай крыві...
І той, клекатнуўшы
даверліва тройчы,
Кіўнуў на буслянку
гасцінна:
— Жыві!
А верабей-прыбыш паціху,
Патроху свой там лад завёў.
Прывёў спачатку вераб'іху,
Затым братоў, сватоў, швагроў...
Панадзюравіў кабінетаў,
Знайшоў на сметніках
папер.
І заявіў буслу па гэтым:
— Ты кватарант у нас
цяпер!..
— Я гаспадар!!! — злуецца
бусел, —
Я тут адвеку клекачу...
— Ну й што! я адвучыць
бяруся,
Чырыкаць хутка навучу...
Ну што твой клёкат—
архаізм;
Цяпер жа ў модзе білінгвізм:
Ты — «чыр-чырык!», я зрэдку — «кля!»
Глядзіш — і згодная сям'я...
Спрабуе бусел клекатнуць,—
У свет паслаць свой «SOS!»
трывожны:
Не ўспее дзюбу разамкнуць,
Як «чыр-чырык!» грыміць
абложны.
Я нават мёртвы засмяюся,
Як вылупіцца
вераб'інабусел...

# ФРАЗЫ

**Небяспечна для жаваранка адлігу сярод зімы прымаць за прыход вясны.**

●

**Згодны, што першыя стануць апошнімі, але калі?**

●

**Галасуючы супраць усходу Сонца, пашану ад людзей не набудзеш, але совы табою будуць задаволены.**

**Рыгор ЛІНКОР.**

●

**У пакрыўджаным гумарысце часта прачынаецца сатырык**

●

**Вядома, што папера ўсё вытрымае, але што рабіць, калі яе няма?**

**Э. ЛУКАНСКІ.**

●

**Нашы веды абмежаваны хоць бы тым, што даецца ў падручніках.**

●

**У зоне маўчання часцей за ўсё вырастае лес рук.**

●

**Ці не ў выніку дэмаграфічнага выбуху распадаюцца сем'і?**

●

**На чужых памылках навучыўся дрэннаму.**

●

**Падпяваюць часцей за ўсё безгалосыя.**

**А. СУШКЕВІЧ.**

# ПРЫЗНАННІ

**— Сам я вельмі прыгожы, — хваліўся вярблюд, — вось толькі жонка ў мяне гарбатая.**

●

**Ліс прасіўся:**

**— Ну, які я злодзей? Сваё нясу, з роднай птушкафабрыкі.**

●

**Зязюля пры выпадку тлумачыла:**

**— Я — маці на грамадскіх пачатках.**

**А. ПЕРАГУД.**



— Патрымайся яшчэ крыху, савет зараз прыме работу.



— Не перажывай. Галоўнае — вуды цэлыя засталіся, а рэчка вунь яна.

Мал. М. ШЫШЛОВА.




**З 5 ПА 11 ЧЭРВЕНЯ**

**5 чэрвеня, 21.50.**

**«Паром». Прэм'ера мастацкага фільма Беларускага тэлебачання, знятага па апавяданню У. Караткевіча «Паром на бурнай рацэ».**

**Аўтар сцэнарыя — А. Кудраўцаў.**

**Рэжысёр — У. Бокун.**

**У ролях: М. Кавалёў, Ю. Казючыц, В. Ізотава, В. Філатаў, В. Суцкавер.**

**6 чэрвеня, 19.25**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

**Вершы А. С. Пушкіна ў перакладзе П. Броўкі і М. Лужаніна чытае Г. Маляўскі.**

**6 чэрвеня, 21.40**

**«ЛІРА»**

**Мастацка-публіцыстычная праграма ўзнімае праблемы гістарычнай памяці народа.**

**У перадачы прымаюць удзел В. Быкаў, А. Марачкін, музыказнаўца Л. Касцюкавец.**

**8 чэрвеня, 18.25**

**«ТУТ ЖЫВЕ МУЗЫКА»**

**Наваполацкаму музычнаму вучылішчу — 20 год.**

**10 чэрвеня, 13.35**

**«РОЗДУМ»**

**Перадача прысвечана графіцы У. Лобан.**

**Вядучы — мастацтвазнавец У. Бойка.**

**10 чэрвеня, 17.40**

**«ЦІ ПАТРЭБНЫ МУДРАМЕР?»**

**Сустрэча са стваральнікамі спектакля «Мудрамер» у тэатры імя Янкі Купалы.**

**У ёй прымаюць удзел драматург М. Матукоўскі, галоўны рэжысёр тэатра В. Раеўскі, народная артыстка СССР С. Станюта, народны артыст БССР М. Яроменка, тэатральны крытык В. Ракіцкі.**

**Вядучы — загадчык літаратурнай часткі тэатра В. Нікіфаровіч.**

**10 чэрвеня, 18.30**

**«ДЗВІНА»**

**На Віцебшчыне прайшлі Дні Смаленскай вобласці. Вы пазнаёміцеся з новымі творамі смалян: празаіка Н. Сямёнавай, паэтаў А. Мішына і В. Смірнова.**

**Думкамі пра моўную сітуацыю ў рэспубліцы, пра неабходнасць стварэння новых слоўнікаў дзеліцца наваполацкі настаўнік, паэт-перакладчык Я. Лапатка.**

**Пачуеце таксама творы кампазітара Н. Усцінавай.**

**Пра экспанаты будучага літаратурнага музея, звязаныя з жыццём і творчасцю У. Караткевіча, расказвае супрацоўнік музея С. Казлова.**

**10 чэрвеня, 19.35**

**Іграе Дзяржаўны камерны аркестр Літоўскай ССР пад кіраўніцтвам С. Сандэцкіса.**

**Прагучыць «Тры маленькія Літургіі» Месіяна.**

**Каментатар — Э. Язерская.**

**11 чэрвеня, 14.45**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

**В. Кандрасюк, Л. Галубовіч, «Чырвоная сукенка». Выконвае М. Скорыкаў.**

**11 чэрвеня, 19.20**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

**Вершы М. Цвятаевай у перакладзе Л. Паўлікавай чытае Э. Давыдоўская.**

**11 чэрвеня, 23.15**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

**Інфармацыйна-музычная праграма.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 05257 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы—33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі— 23-73-37.